Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 41 (4687) 12 кастрычніка 2012 г.

Думка пісьменніка

## Яшчэ раз пра Купалу



У гады вайны мне, дзесяцігадовому хлапчуку, давялося быць "ад'ютантам" Героя Савецкага Саюза, партызанскага генерала Васіля Іванавіча Казлова, камандзіра злучэння партызанскіх атрадаў Мінскай вобласці. Я выконваў ролю бесправаднога тэлефона — кагосьці паклікаць, камусьці штосьці паведаміць, аднесці тэлеграму на радыёстанцыю, мог пачысціць маўзер, у шпіталі пачытаць параненым газету, балазе да вайны з пахвальнай граматай паспеў скончыць першы клас і ўмеў чытаць. Ад ранку да позняга вечара быў на нагах. Усе даручэнні выконваў спраўна і хутка. У мяне былі свой конь, пісталет, фінка.

Пасля аднаго з рэйдаў Васіль Іванавіч падарыў мне томік вершаў Янкі Купалы. З гэтай кнігай я не расставаўся. Так пачалося маё знаёмства з вялікім паэтам.

Гадоў дваццаць таму ў часопісе "Полымя" былі апублікаваныя ўспаміны Паўліны Мядзёлкі пра яе сустрэчы з Купалам. Яны мяне зацікавілі як драматурга. Купала паўстаў перада мною як жывы чалавек, са сваімі жарсцямі, без хрэстаматыйнага глянцу і забранзавеласці… Пасля гэтага я вырашыў напісаць п'есу "Версія" пра адносіны Купалы і Мядзёлкі. Яна прываблівала новым Купалам і насцярожвала. Так пра яго яшчэ не пісалі.

— П'еса добрая, чытаецца з цікавасцю, — казалі мне. — Але так пісаць пра Купалу яшчэ рана!

Мінскі абласны драматычны тэатр у Маладзечне наважыўся паставіць п'есу. Узяўся зрабіць гэта таленавіты рэжысёр Венядзікт Растрыжэнкаў.

Прэм'ера адбылася 7 ліпеня, у дзень нараджэння Купалы. Былі доўгія апладысменты. А пасля заканчэння ў многіх, нават у мужчын, на вачах блішчалі слёзы. Гледачы доўга не разыходзіліся, пыталіся ў мяне: хто вінаваты ў гібелі Купалы?

Калі б я ведаў! Але згадваецца даўні эпізод. Пісьменнік Алесь Кучар запрасіў мяне да сябе — мы жылі побач. За сталом размова зайшла пра Купалу, я расказаў яму, што пасля вяртання з партызанскага атрада мы з мамай жылі ў сталіцы ў гасцініцы "Масква" ў нумары 310, у сям'і Казловых, нашых даўніх сяброў. І Тамара Казлова, сяброўка дзяцінства, падняўшыся на дзясяты паверх, паказала мне лесвіцу, на якой разбіўся Купала, шэптам давала тлумачэнні. За сталом я спытаў Кучара, хто вінаваты ў гібелі Купалы? Ён доўга маўчаў, а потым кульнуў чарговую чарку і сказаў:

— Табе гэтага не зразумець. Час быў такі, што або ты пісаў, або на цябе…

Яго жонка Люба, якая гатавала на кухні, гнеўна крыкнула:

— Хто цябе цягне за язык?!

Мне падалося, што, калі б не жонка, ён сказаў бы болей. Магчыма…

Больш са мной Кучар так шчыра не размаўляў.

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК**

# Ласкавае матуліна святла



Добра таму, у каго мама ёсць, і можна азірнуцца, адчуць штодзённую падтрымку. Калі хочацца песціцца ў промнях яе дабрыні ды пяшчоты, звяраць кожны свой крок, учынак з яе паняццямі пра мараль і прыстойнасць. Зразумела, падсвядома, на ўзроўні няўлоўных, але на дзіва трывалых стасункаў з самым дарагім і блізкім чалавекам.

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Кастуся Дробава**

Гэтыя паняцці, закладзеныя ў маленстве, з цягам часу не страчваюць значнасці і толькі пашыраюць гарызонт, пакідаючы чалавеку выключную магчымасць заставацца на непахісным падмурку любові да бліжняга, роднага. Прычым, не толькі роднага чалавека, а і роднага кута, роднай старонкі, роднай мовы і сваёй Айчыны. Гэта мама вучыла бачыць прыгажосць наваколля; сваім сэрцам — адчуваць прыгажосць душы; а мудрым сваім досведам — спасцігаць значнасць майстэрства і традыцый народа, маленькай часцінкай якога з'яўляешся ад самага свайго нараджэння і ты. І ад твайго сумлення ўжо залежыць, што ты прынясеш і пранясеш праз жыццё, кім станеш пасля гадоў сталення і адукацыі.

На тыдні, прысвечаным Маці, мы зноў гаворым пра спагаду і міласэрнасць, пра незласлівасць і высакароднасць, пра бязмежную любоў — аснову асноў існавання на зямлі. І толькі спасцігнуўшы гэтае найярчэйшае людское ўменне — здольнасць любіць, чалавек да самага донца можа рэалізаваць свой талент.

Перад дзяржаўным святам — Днём маці — у Мінску традыцыйна адчыняе дзверы духоўна-асветніцкая выстаўка "Пакроўскі кірмаш". Яна прымеркавана да свята Пакрова Прасвятой Багародзіцы і дазваляе спрычыніцца да вялікай асветніцкай праграмы — дзеля пашырэння нашага агульнага духоўнага поля.

У межах выстаўкі 9 кастрычніка прайшоў Дзень духоўнай кнігі. Невыпадкова адной з цэнтральных падзей стала прэзентацыя ўнікальнага факсімільнага выдання "Житие блаженной Евфросинии, игумении монастыря Вседержителя Святого Спаса во граде Полоцке". Тэкст даўняга рукапісу адноўлены з захаваннем яго падзелу на старонкі, радок у радок. Прычым публікацыя тэксту ўпершыню злучаецца з перакладамі на рускую, беларускую і англійскую мовы. Выданне, ажыццёўленае Выдавецтвам Беларускага Экзархата, — уладальнік Дыплома II ступені конкурсу "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД. А яшчэ ў гэты ж дзень прэзентаваліся кнігі Анатоля Статкевіча-Чабаганава з серыі "Я — сын ваш. Летапіс беларускай шляхты". Кнігі, якія заклікаюць усіх нас зазірнуць у мінулае, успомніць сваіх продкаў, ушанаваць іх памяць, каб не страціць духоўных повязей і паспрабаваць адказаць на пытанне "Адкуль мы?". Публіцыст, рэдактар аддзела часопіса "Полымя" Алесь Марціновіч падкрэсліў, што традыцыі духоўнай літаратуры ідуць ад Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага. Мы ведаем пра подзвіг князя Алелькавіча, які сам перапісаў Евангелле, якое цяпер згадваюць як Слуцкае. Зноў жа факсімільнае выданне мы можам патрымаць у руках, пачытаць.

Традыцыя духоўнай кнігі — найперш перадаваць высокую моц духу, так неабходную чалавеку. Таму скіроўваецца ўвага і на выданні пра беларускіх святых і пра тое, што непакоіць сучаснікаў. У рамках тыдня на кірмашы — паказ спектакляў "Чорнае паліто" і "Цяжкі ўзрост", прэзентацыі кніг, створаных на падставе матэрыялаў сайта "Пережить.ру", пісьмаў чытачоў, гутарак са святарамі і псіхолагамі. "Нараджэнне дзіцяці — гэта найперш здольнасць аддаць самога сябе дзеля іншага", — прамовіў на адкрыцці Дня духоўнай кнігі выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў. Прэзентацыі кніг — і ў праграме "Сям'я — адзінства — Айчына"...

Але Дзень, і нават Тыдзень маці, вядома ж, не абмяжоўваецца геаграфічнымі рамкамі, праграмай "Пакроўскага кірмашу". Ён праходзіць ва ўсіх установах і, спадзяюся, жаданы ва ўсіх сем'ях. Пранікае нават у сацыяльную сетку "ВКонтакте". Па ініцыятыве студэнтаў БДУ менавіта ў сецівe праходзіць конкурс фотаздымкаў "Лепшая маміна ўсмешка". Адкрытая, шчырая, пяшчотная, яна — і на нашым, лімаўскім здымку. За спінай маладой мамы — выява Крупецкай іконы Божай Маці, 400-годдзе цудадзейнага яўлення якой святкуецца гэтымі днямі. Ёсць магчымасць азірнуцца, адчуць ласкавы дотык яе душы...

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў галоўнага дырыжора Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра, народнага артыста Беларусі Аляксандра Анісімава з 65-годдзем. "Вас па праве можна назваць лепшым сімфанічным і оперным дырыжорам сучаснай Беларусі. Мы шануем вас і як нястомнага прапагандыста музычнай класікі, арганізатара цікавых творчых акцый, скіраваных на далучэнне да яе шырокай публікі і ў першую чаргу моладзі", — зазначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір" з 20-годдзем. "За мінулыя гады ваш калектыў заваяваў аўтарытэт у глядацкай аўдыторыі дзяржаў Садружнасці і пераканаўча даказаў, што ён можа на роўных канкураваць з вядучымі тэлевізійнымі арганізацыямі свету", — сказана ў віншаванні.

✔ У межах Дзён культуры Азербайджана ў Беларусі адбылася сустрэча міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі з намеснікам міністра культуры і турызму Азербайджана Назімам Адзіль аглу Самедавым. Бакамі адзначана актыўнае культурнае супрацоўніцтва паміж краінамі: не першы год развіваюцца сувязі паміж нацыянальнымі бібліятэкамі, прадстаўнікі Азербайджана актыўна ўдзельнічаюць у фестывалях "Лістапад" і "Белая Вежа". У ходзе сустрэчы бакі дамовіліся аб правядзенні ў Беларусі выстаўкі ўнікальнага азербайджанскага дывана — яскравага носьбіта культурнай і духоўнай спадчыны краіны.

✔ XX Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш будзе праходзіць з 6 па 10 лютага наступнага года ў Нацыянальным выставачным цэнтры "Белэкспа". Ганаровы госць — Расія.

✔Заслужаны калектыў Беларусі Тэатр-студыя кінаакцёра з 11 па 14 кастрычніка бярэ ўдзел у Днях культуры Беларусі ў Літоўскай Рэспубліцы. Замежнаму гледачу прапануюцца камедыя "№ 13" і містычны дэтэктыў "Сродак Макропуласа". Гастролі праходзяць пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і Пасольства Беларусі ў Літве.

✔ Фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень" чакае ўдзельнікаў з 15 краін. Сёлета фестываль прымеркаваны да 75-годдзя Белдзяржфілармоніі і супадае са святкаваннем 75-гадовага юбілею народнага артыста Беларусі Дзмітрыя Смольскага. Упершыню ў межах фестывалю, які будзе праходзіць з 14 па 23 лістапада, арганізаваны міжнародны музычны форум "Беларусы свету".

✔ Магілёўскі і Смаленскі абласныя тэатры лялек упершыню абмяняюцца гастролямі. На беларускай сцэне можна будзе ўбачыць спектакль "Прыгаючая прынцэса", а магіляўчане прапануюць расійскаму гледачу павучальную гісторыю для дзяцей "Пчолка Зуза".

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

## Да Дня работнікаў культуры

# Падмурак дзяржаўнасці

Урачыстыя мерапрыемствы, прымеркаваныя да Дня работнікаў культуры, ладзяцца па ўсёй краіне. А адно з іх можа стаць добрай традыцыяй: цырымонія ўзнагароджання лепшых прадстаўнікоў сферы праходзіла ў культурнай сталіцы 2012 года — горадзе Нясвіжы. А менавіта — у Нацыянальным гісторыка-культурным запаведніку "Нясвіж".

Ірына ТУЛУПАВА

Пасланне Кіраўніка дзяржавы з нагоды свята зачытаў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў.

У тэатральнай зале старажытнага замка называліся імёны людзей, якія сваёй шчырай і добрасумленнай працай робяць усё магчымае для росквіту дзяржавы, захавання і памнажэння яе лепшых традыцый. Здабыткі культуры — значныя і годна прадстаўляюць краіну на міжнародным узроўні. Еўрапейскасць беларускай культуры падкрэсліваюць нездарма: акрамя таго, што ў нашай дзяржаве знаходзіцца геаграфічны цэнтр Еўропы, тут сканцэнтраваны вытокі шмат якіх мастацтваў.

Што да Нясвіжа, то варта згадаць знаны тэатр Уршулі Радзівіл — адзін са старажытных тэатраў на тэрыторыі Беларусі і Усходняй Еўропы. У 1740 годзе тут заснавана мануфактура знакамітых шаўковых паясоў. Узорам еўрапейскага выяўленчага мастацтва з'яўляецца творчасць Ксаверыя Гескага. І, бясспрэчна, вартая згадак Нясвіжская друкарня, дзе 450 гадоў таму Сымон Будны выдаў першую кнігу на беларускай мове. На гэтыя сапраўдныя адметнасці горададыямента беларускай культурнай спадчыны звярнуў увагу ў сваёй прамове на ўрачыстым пасяджэнні міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Ён нагадаў пра агульныя здабыткі апошняга часу і тых работнікаў, якія дасягнулі значных поспехаў у прафесійнай дзейнасці. Так, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ганаровае званне "Народны артыст Беларусі" прысвоена вядучым майстрам сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Вользе Гайко і Людміле Кудраўцавай, вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Сяргею Жураўлю, а таксама дырэктару Беларускага дзяржаўнага цырка Таццяне Бандарчук. Шмат узнагароджаных ордэнам і медалём Францыска Скарыны.

Міністр дэталёва распавёў пра рэформу заканадаўства ў сферы культуры, пра тое, што сёння ўяўляе сабою культура рэгіёнаў, пра развіццё прафесійнага мастацтва і народную творчасць. Гаварылася ў замку і пра адносіны грамадства да аховы нашай даўніны, пра мадэрнізацыю, якую перажывае сёння кінагаліна, міжнародныя праекты і працу з таленавітай моладдзю.

"Беларуская культура — гэта зорка, якая свеціць усім тым, хто гатовы яе прыняць і зразумець, усім, хто руплiва працуе над яе ўзбагачэннем. Яна крыніца духоўнага здароўя нацыі і падмурак развіцця нашай дзяржаўнасці", — падкрэсліў Павел Паўлавіч.

На сходзе былі ўручаны ўзнагароды Савета Міністраў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі, Беларускага прафсаюза работнікаў культуры.

## Віншуем!

За значны ўнёсак у рэалізацыю дзяржаўнай культурнай палітыкі, плённую працу і высокае прафесійнае майстэрства Ганаровай граматай Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь узнагароджаны: мастацкі кіраўнік аркестра народных інструментаў імя народнага артыста Беларусі Л. Іванова Магілёўскай абласной філармоніі Мікалай Алданаў; дырэктар Веткаўскага музея народнай творчасці імя Ф. Шклярава Галіна Нячаева; калектыў Беларускага дзяржаўнага цырка; калектыў ансамбля танца, музыкі і песні "Белыя росы"; народны ансамбль народнай песні "Мірскія музыкі" Мірскага сельскага Дома культуры Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці; сімфанічны аркестр Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага.

Падзяку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб'явілі загадчыку кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзіміру Зінкевічу; намесніку генеральнага дырэктара па культурна-масавай рабоце Цэнтра культуры "Віцебск" Ірыне Коўленай; дырэктару Музея гісторыі горада Мінска Галіне Ладзісавай.

Шэраг прадстаўнікоў аддзелаў і ўстаноў культуры адзначаны ганаровымі граматамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

# Шляхі да супрацоўніцтва

Чарговай нагодай для сустрэчы пісьменнікаў, выдаўцоў і чытачоў стала VII міжнародная выстаўка-кірмаш і навуковая канферэнцыя "Кніга — шлях да супрацоўніцтва і прагрэсу", што праходзіла 24 — 26 верасня ў Ашхабадзе.

Раіса СІНЯЎСКАЯ

Сярод тэм, абмеркаваных на "круглых сталах": "Культурныя сувязі — крыніца, якая бярэ пачатак з глыбіні стагоддзяў", "Сусветная літаратура — падарожжа ў свет мудрасці", "Кніжная графіка: зліццё слова і карціны ў мастацтва" і інш. Значная ўвага надавалася дзіцячай кнізе. Сярод гасцей былі і беларусы: прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі, Нацыянальнай кніжнай палаты, прыватнага бізнесу і СМІ. Саюз пісьменнікаў Беларусі прадстаўляў яго Першы сакратар Генадзь Пашкоў, які не толькі шмат выступаў, распавядаючы пра дзейнасць беларускіх літаратараў, але і ўваходзіў у склад журы конкурсу на лепшую кнігу. Госці выстаўкі атрымалі магчымасць пазнаёміцца з прадукцыяй усіх беларускіх выдавецтваў. А па заканчэнні мерапрыемстваў кнігі былі перададзены Туркменскай дзяржаўнай выдавецкай службе.

Намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут зазначыла, што беларуска-туркменскі кірунак неабходна распрацоўваць і першыя крокі на гэтым шляху ўжо зроблены: рыхтуецца да выдання кніга дырэктара Кніжнай палаты Туркменістана Алагельды Аланазарава "Вясёлая азбука", у перспектыўных планах — два яго раманы. Акрамя таго, дасягнуты дамоўленасці па далейшым супрацоўніцтве з прэзідэнтам казахскага выдавецкага дома Галінай Сейдыханавай і прадстаўніком Рэспублікі Малдова ў СНД па кнігавыданні, кнігараспаўсюджванні і паліграфіі Аляксандрам Саціровічам. "Вельмі вялікую цікавасць выклікала ў выдаўцоў Расіі, Украіны, Казахстана і Малдовы наша навучальная і дзіцячая літаратура. Усе адзначалі высокую культуру выканання нашых кніг і шматграннасць айчынных выдавецкіх праектаў", — падкрэсліла Ала Генрыхаўна.

Такім чынам, у Ашхабадзе былі найлепшым чынам прадстаўлены выдавецтвы Беларусі, нашы выдаўцы пазнаёміліся з самымі сучаснымі тэндэнцыямі ў сваёй галіне, знайшлі новых знаёмых і добрых партнёраў.

## Кіно

# Нямецкі акцэнт мінскага кінафоруму

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

У рамках XIX Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" гледача чакае сустрэча з нямецкім кіно, якой паспрыяў Інстытут імя Гётэ. Рэтраспектыва "Вачыма Германіі" ўключае работы такіх рэжысёраў, як Крысціян Петцольд, Дамінік Граф, Крыстаф Хаххойзлер, Леандэр Хаўсман, Ханс Вайнгартнер. Не застанецца па-за ўвагай і адрэстаўраваная ў мінулым годзе карціна "Роспач" (1978) Райнера Вернера Фасбіндэра — экранізацыя аднайменнага рамана Уладзіміра Набокава, прысвечанага блізкай нямецкаму кінематографу тэме "двайнікоў". Стужка адзначана прэміямі нямецкай кінаакадэміі за лепшую рэжысуру, лепшую аператарскую работу і работу мастака. Пра магчымасць прадстаўляць яе нашаму гледачу вядуцца перамовы з актрысай Андрэа Фэраоль, якая здымалася ў Франсуа Труфо, Пітэра Грынуэя, МаркаФерэры і іншых культавых рэжысёраў.

"Меню" рэтраспектывы даволі разнастайнае: эксперыментальная трылогія "Драйлебен" (2011, тры самастойныя стужкі розных рэжысёраў, паяднаныя сітуацыямі, агульным месцам дзеяння і героямі), авантурная камедыя "Гатэль «Люкс»" (2011, запрашэнне ў сталінскую Маскву часоў падпісання пакта Молатава-Рыбентропа), канцэптуальная "Сума ўсіх маіх частак" (2011, разважанне, што ёсць свабода ў сытым свеце клішэ і ўмоў-насцей. Работы рэжысёра Х. Вайнгартнера намінаваны на Залатую пальмавую галіну ў Канах і Залатую ракавіну ў Сан-Себасцьяне).

"Гатэль «Люкс»" адзначаны сёлета баварскай кінапрэміяй — прызам у намінацыі "Лепшы прадзюсар" і прызам журы Рымскага міжнароднага кінафестывалю ў мінулым годзе.

Нямецкі акцэнт прагучыць і на "Лістападзіку" — плануецца, што конкурс фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі завершыць стужка, тэму якой можна акрэсліць як "Хічкок для дзяцей".

Літабсягі

# Выкажыся, каб я мог цябе ўбачыць

Словы Сакрата як нельга больш прыдатныя для выдання, якое стала трыбунай новага паэтычнага пакалення Беларусі. У рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" ўбачыў свет доўгачаканы зборнік "Мы — маладыя". Пад яго вокладкай чытач знойдзе творы 167 маладых таленавітых літаратараў Беларусі, руплівa адабраныя ўкладальнікам Міхасём Башлаковым.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Вершы на рускай і беларускай мове, якім папярэднічае кароткая даведка пра аўтара. Хто яны? Студэнты і выпускнікі розных ВНУ: БДУ, БДПУ імя Максіма Танка, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта, Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта і іншых. Маладыя паэты жывуць не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі — у Расіі, Канадзе. Хтосьці заявіў пра сябе ў першых публікацыях. На рахунку іншых — па некалькі зборнікаў, а некаторыя ўжо з'яўляюцца членамі СПБ.

У прадмове да выдання Міхась Башлакоў сцвярджае: "Паэзія — гэта маладосць". Упэўненасць, майстэрства і прафесіяналізм радкоў — прыкметы сталасці. А на гэтых старонках ветразі поўніць вецер пачуццяў, і вобразы вельмі смелыя, і колеры часам эпатажныя, але ж усё кампенсуецца моцнай энергетыкай і шчырасцю адкрыццяў маладосці. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь паэт Міхась Башлакоў добра ведае, што шлях у Паэзію патрабуе сілы волі, упартасці і нават мужнасці. "На гэтым шляху болей перашкод і няўдач, чым поспехаў і перамог". Хто з прадстаўленых на старонках зборніка аддасць Паэзіі ўсё жыццё, а хто пакрысе развітаецца з ёю, закруціўшыся ў віры штодзённых клопатаў, невядома, але таму і важна падтрымаць творчых асоб напачатку. Як бы ні склалася, наяўнасць у біяграфіі такога факта, як публікацыя ў салідным зборніку — з цвёрдай вокладкай на выдатнай белай паперы, — падстава ганарыцца сабою.




З вялікім задавальненнем сярод творцаў чытачы адкрыюць новыя і знойдуць знаёмыя прозвішчы: за час, пакуль рыхтавалася кніга, многія аўтары пабагацелі на публікацыі ў рэспубліканскай прэсе, выдалі ўласныя кнігі, сталі членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Арт-лінія

# Сем прыгажунь і іншыя цікавосткі

Гэты тыдзень падарыў беларусам шмат цікавых культурных падзей, сярод якіх, напэўна, было дастаткова цяжка вылучыць нешта адно. Але не звярнуць увагу на мерапрыемствы Дзён культуры Азербайджанскай Рэспублікі, якія праходзяць у нашай краіне раз у некалькі гадоў, проста немагчыма!

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота прадастаўлена Азербайджанскім дзяржаўным акадэмічным тэатрам оперы і балета**

З 8 па 12 кастрычніка дзякуючы намаганням Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры і турызму Азербайджанскай Рэспублікі жыхары нашай краіны мелі магчымасць дакрануцца да старадаўняй і шматграннай культуры Азербайджана ў самых розных яе праявах — фотамастацтве, музыцы, харэаграфіі і кіно...

Паміж нашымі рэспублікамі даўно падпісана пагадненне аб культурным супрацоўніцтве, цёплыя і нязмушаныя адносіны склаліся паміж творцамі. Пацвярджэннем гэтаму становяцца ўсё новыя крокі на збліжэнне культур. Такія, напрыклад, як супрацоўніцтвы: Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя Ахундава і Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Нездарма і сёлетнія Дні культуры Азербайджана праходзяць пераважна ў Вялікім тэатры. Менавіта тут адбыліся выстаўкі турызму Азербайджанскай Рэспублікі і фотаработ "Азербайджан на стыку традыцый і сучаснасці", на якіх былі прадэманстраваны работы такіх вядомых фотамастакоў, як Фарыд Хайрулін, Лейла Ахундзадэ, Тагір Мамедаў, Мірнаіб Гасанаглы.



Цэнтральнай падзеяй сёлетніх Дзён культуры стаў паказ знакавага для ўсяго азербайджанскага грамадства балета "Сем прыгажунь" Кара Караева. Гэты спектакль называюць візітоўкай Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Славутая гісторыя ўключае ў сябе сем казачных навел, якія расказваюць сем жонак старажытнаіранскага цара Бахрама. Сем прыгажунь — гэта сем царэўнаў з сямі краін свету, што жывуць у сямі палацах, кожны з якіх мае свой асаблівы колер, адпаведны пэўнаму дню тыдня.

Спектакль "Сем прыгажунь" сёння — пра спасціжэнне свету, сталенне галоўнага героя, пра сем таямнічых гераінь старадаўняй усходняй легенды. Пошук кахання і сэнсу жыцця, зямныя радасці і іх недаўгавечнасць, прыгажосць свету і нашае імкненне да чагосьці невядомага — вось пра што расказвае і пра што заклікае разважаць легендарны балет.

На працягу гэтага тыдня аматары кінамастацтва маглі пазнаёміцца таксама і з азербайджанскім кіно. Фільмы "Дзе адвакат?", "Заложнік" і "Стэпавік" дэманстраваліся ў мінскім кінатэатры "Перамога".

Повязі

# У сталіцы салаўінага краю

Гарады Гомель і Курск маюць даўнія сяброўскія сувязі. Пры канцы верасня старажытны Курск святкаваў 980-гадовы юбілей. Было запланавана мноства мерапрыемстваў, сярод іх — II Курскі міжнародны пленэр "Курск — салаўінага краю сталіца".

**Генадзь ГОВАР**

Удзельнікаў пленэру вітаў кіраўнік гарадской адміністрацыі Мікалай Аўчароў.

Мастакам прапанавалі перадаць у сваіх творах асабістае бачанне курскага гарадскога пейзажу, а кіраваў пленэрам жывапісец Валерый Мазураў.

Старажытная курская зямля часта спусташалася заваёўнікамі. Горад да сярэдзіны XIII стагоддзя быў цалкам знішчаны мангола-татарскім нашэсцем. Згодна з паданнем, адразу ж яго знойдзены паляўнічымі цудам захаваны абраз Божай Маці "Курская Карэнная «Знаменне»". Цудатворная ікона ўжо больш як 700 гадоў вядома ва ўсім хрысціянскім свеце. У 1881 годзе, пабываўшы ў Курску і пакланіўшыся ёй, Ілья Рэпін натхніўся на стварэнне эпахальнага палатна "Хросны ход у Курскай губерні". Абраз цяпер захоўваецца ў ЗША. Але штогод на святкаванне Дня горада ён вяртаецца ў Курск.

Падчас пленэру ў Літаратурным музеі Курска была адкрыта мая персанальная перасоўная мастацкая выстаўка "Кніжная графіка і паэзія Генадзя Говара", арганізаваная Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкай, Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Беларускім саюзам мастакоў.



*Удзельнікі II Курскага міжнароднага пленэру: Яўген Каструкоў, Вадзім Калабоўнікаў, Юрый Чарнышоў, Марына Ражнятоўская, Ігар Васілеўскі, Юрый Казакоў, Яніна Патокіна, Валерый Васільеў, Генадзь Говар.*

Пры адкрыцці мастацкай выстаўкі "Курск — салаўінага краю сталіца" кожны ўдзельнік падарыў па дзве работы ў збор будучай галерэі.

Затым былі іншыя святочныя мерапрыемствы: урачысты сход, адкрыццё новых культурных аб'ектаў, спаборніцтвы і канцэрты... Беларусь прадстаўляў мастацкі калектыў Рагачоўскага аддзела культуры "Добры вечар" пад кіраўніцтвам Міхаіла Зайцава. Удзельнікі пленэру развіталіся добрымі сябрамі.

З-пад пяра

Да 100-годдзя з дня нараджэння песняра Беларусі Максіма Танка 10 кастрычніка ў фармаце тэатральна-канцэртнага праекта "Час і постаці" адбылася вялікая праграма ў двух аддзяленнях. У першым — "Ключ жураўліны" — бралі ўдзел артысты тэатра "Зніч", народны ансамбль народнай песні "Гаманіна" і паэтычны тэатр "Рытмы сэрца" (студэнцкі клуб БДУІР). У другім аддзяленні "Лісткі календара" музычныя калектывы Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь выканалі драматычную араторыю кампазітара Алега Залётнева на словы Максіма Танка. Як паведаміла аўтар сцэнічнай версіі рэжысёр-пастаноўшчык Галіна Дзягілева, гэта быў знакавы праект і для самой Белдзяржфілармоніі, і для ўсіх аматараў беларускай музычнай культуры і нацыянальнага прыгожага пісьменства.

**Кацярына НІКІШЫНА**

На веткаўскай зямлі ў вёсцы Неглюбка прайшоў незвычайны фэст — Свята беларускага ручніка, удзел ў якім узялі майстры з усіх раёнаў Гомельшчыны. Мясцовыя ручнікі, адлюстроўваючы агульныя рысы падняпроўскіх вырабаў, у той жа час маюць свае мастацка-тэхналагічныя адметнасці, якія ў мінулым стагоддзі безупынна развіваліся непасрэдна ў Неглюбцы. Выкананыя мясцовымі ткачыхамі на драўляных кроснах, ручнікі вядомыя цяпер ва ўсім свеце. На міжнародных выстаўках у Нью-Ёрку, Манрэалі, Токіа, Парыжы, Брусэлі яны былі адзначаны залатымі медалямі і нават папоўнілі калекцыю амерыканскага музея "Метраполітан". Падчас фэсту прайшла выстаўка народнай творчасці, адбыліся майстар-класы, канцэрты. Падобнае мерапрыемства ладзілася ўпершыню.

**Міра ІЎКОВІЧ**

Калектыў газеты "Літаратура і мастацтва" глыбока смуткуе з прычыны смерці навукоўца, пісьменніка, нашага пастаяннага аўтара Міколы МІШЧАНЧУКА і выказвае шчырыя спачуванні яго сям'і, родным і блізкім.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю выдатнага мастака Сяргея ЦІМОХАВА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Беларускі саюз мастакоў смуткуе ў сувязі з заўчаснай смерцю Сяргея Аляксандравіча ЦІМОХАВА, намесніка старшыні ГА "БСМ", вядомага мастака, члена Беларускага саюза мастакоў, які ўнёс вялікі ўклад у развіццё і прапаганду беларускага выяўленчага мастацтва, і выказвае спачуванне родным і блізкім у сувязі з напаткаўшым іх вялікім горам.

Дэканат і супрацоўнікі філалагічнага факультэта БДУ смуткуюць з прычыны смерці КУДРАШОВА Вячаслава Віктаравіча і выказваюць шчырыя спачуванні яго жонцы, загадчыку кафедры беларускай літаратуры і культуры, прафесару Таццяне Іванаўне Шамякінай, дочкам Марыі і Славяне (выкладчыку кафедры тэорыі літаратуры), а таксама ўсім родным і блізкім.

# Пяць памятных сустрэч

Алена РУЦКАЯ

Першым пісьменнікам, якога я асэнсавана пачала ўспрымаць як творцу кнігі, быў Максім Танк. А сталася гэта таму, што першай кніжкай, якую падарылі, а не проста прынеслі пачытаць, было прыгожае, добра ілюстраванае выданне вершаваных казкі паэта "Конь і леў". Маці мне яе адразу ж прачытала, а бацька паказаў фотаздымак на газетнай старонцы і сказаў, што сама самы высокі дзядзька на ім і ёсць той, хто напісаў кнігу. Здымак пасля выразалі і скобкай са сшытка акуратна прымацавалі да апошняй старонкі кнігі. Чытаць я тады яшчэ не ўмела, але хутка вывучыла тэкст на памяць і "чытала" самой сабе, а затым абавязкова глядзела на здымак як на нешта неад'емнае ад кніжкі. Пазней чытала Максіма Танка — усё, што траплялася, а ў дзясятым класе ледзь не сарвала ўрок, калі прачытала замест праграмных твораў верш "Кнізе «Жыццё Вікрамы»", дзе былі радкі пра тое, што "не трэба верыць жывёлам з рагамі, людзям з мячом, царам і жанчынам". Справакавала дыскусію, што на той час у школе не практыкавалася.

Другая, ужо не завочная, сустрэча з Максімам Танкам адбылася, калі я вучылася на другім курсе філфака БДУ. Кіраўнік нашага студэнцкага літаратурнага аб'яднання "Узлёт" прафесар Алег Антонавіч Лойка часта прыносіў запрашальныя білеты на розныя імпрэзы ў Дом літаратара, а таксама прыводзіў пісьменнікаў да нас на пасяджэнні. Помніцца, што ішлі мы на сустрэчу невялікім гуртом (распачалася заліковая сесія) і прыгадвалі кінастужку "Гадзіннік спыніўся апоўначы", бо ў будынку, дзе тады знаходзіўся саюз пісьменнікаў, у гады вайны і быў узарваны гаўляйтар Кубэ. Настроенасць на гісторыю адбілася і на сустрэчы. Хаця Яўген Іванавіч прыняў нас вельмі прыязна і жартаўліва, мы былі скаваныя, насцярожаныя: перад намі майстар, прызнаны і аўтарытэтны, а пражытыя ім пяцьдзясят пяць гадоў успрымаліся як вялізная часавая адлегласць. Уражвала, як многа ён чытаў, як многа памятае і ведае. Размова складвалася, нібы нейкі мазаічны ўзор, і кожная частачка падсвечвалася яркім успамінам, згадкаю. Мы тады ўпершыню пачулі пра фотавыстаўкі Яна Булгака ў Вільні, пра канцэрты Забэйды-Суміцкага, пра знаёмства з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем у лістападзе 1939 года, калі заходнебеларускіх паэтаў сабралі ў Мінску.

У Яўгена Іванавіча была цікавая апавядальніцкая манера: вельмі дарэчна перамяжоўваць сур'ёзнае з гумарам, які то падкрэсліваў, то змякчаў акцэнты сказанага. Так, прыгадаўшы незабыўную сустрэчу са славутымі пісьменнікамі, ён жартам зазначыў, што сапсаваць уражанне пра сябе чытанием твораў яму не далі, бо вельмі шчыльным быў графік шматлікіх сустрэч на прадпрыемствах і ў калгасах. А на гэтых сустрэчах яго ратаваў псеўданім — мусіў жа ён, назвыклы да велізарных аўдыторый, адпавядаць такому магутнаму найменню, ды і не хацелася адставаць ад бойкіх мінчукоў з іх ваяўнічай пралетарскай музай.

Пасмяяліся мы і з жартаўлівага аповеду, як паэт яшчэ гімназістам умудрыўся паглядзець "Запарожца за Дунаем". Грошай на білет не меў, і таму з раніцы да пачатку спектакля праседзеў за пажарнай бочкай; пасля напалохаў гледачоў, калі са страшэнным грукатам, перавярнуўшы нейкія вёдры, вылез са сваёй схованкі і маліўся, каб толькі яго не вылі, бо такая пакута пайшла б намарна. Дарэчы, гэты ўспамін разварушыў нас, мы пасмялелі, папрасілі пачытаць вершы. Ён прачытаў некалькі вершаў-уражанняў з замежных вандровак, а пасля патрымаў паўзу і працытаваў: "Пісаць пачынаю ўсё горш я і горш — пара выбіраць акадэмікам". Лойка ўдала падтрымаў жарт, сказаўшы, што з першай часткай ён не згодны, а вось за другую прагаласаваў бы абедзвюма рукамі.

Гаворка пераключылася на нашы справы: мы планавалі выдаваць калектыўны зборнік, адбіралі вершы, абмяркоўвалі іх, хацелі, каб кніжка атрымалася адметнай. Яўген Іванавіч, відаць, адчуваў, што мы чакаем нейкай парады, таму загаварыў пра творчасць, пра тое, што адкрываў сам. За далеччу гадоў цяжка ўспомніць усё, што было сказана. Згадваецца толькі занатаванае ў стары агульны сшытак, што перачытвалася шмат разоў, а таму зачапілася ў памяці. Найперш — працытаваныя словы А. Франса: "Мастацтва — гэта соты раз бачыць па-новаму тое, што да цябе бачылі другія". Іншая парада: выбірацца з цянётаў шматслоўнасці і ўпрыгожанняў, каб вершы не былі так "затканы арнаментам, як не затканы нават ручнікі". А самае важнае — вывучаць фальклор, бо ён, як крыніца, дае сілы, але таптацца каля яго нельга. Паэзія павінна адкрываць новае, а фальклор — жывіць карані творчасці. Інакш нараджаецца "паэзія без радзімы". На развітанне Яўген Іванавіч прачытаў (ён толькі пачаў рыхтаваць да выдання дзённікі) адну занатоўку, пазней у "Лістках календара" я яе адшукала: "Мы — песняры народа невялікага, пра які мала хто чуў на свеце, і ў той жа час мы — песняры народа вялікага і такога багатага, які нават не знае ўсіх сваіх дзяцей, усіх сваіх скарбаў". Тады мы ўразіліся актуальнасці гэтых слоў, яна не страцілася і цяпер.

Яшчэ адна памятная сустрэча адбылася праз два гады. Да нас на філфак прыехаў паэт Алесь Барскі з групай студэнтаў з Варшавы. У іх насычанай праграме было наведванне Вільні, а на зваротным шляху — заезд на возера Нарач. Сярод польскіх студэнтаў была дзяўчына Вечя, знешне даволі падобная да мяне. Барскі ахрысціў нас сёстрамі, а за час вандроўкі мы пасябравалі. З Вільні на Нарач прыехалі пад самы вечар, размясціліся на былой базе нашага біяфака і пайшлі гуляць па беразе возера. Наш выкладчык паказаў на звычайную вясковую хату за акуратным пафарбаваным плотам і сказаў, што гэта лецішча Максіма Танка. У двары нікога не было, і Юрка Голуб, зірнуўшы на пусты масток з ланцужком на калку, вызначыў, што гаспадар няйнакш як на возеры вудзіць рыбу.

Так яно і аказалася. Калі мы з Весяй і хлопцам з яе групы зноў вярнуліся да лецішча, то ўбачылі Яўгена Іванавіча на мастку ля лодкі. Я ўжо расказала Весі пра сустрэчу з паэтам, і яна пачала падбухторваць мяне падысці і павітацца. Яўген Іванавіч ужо заўважыў нас, пазіраў у наш бок, і я, набраўшыся храбрасці, прывіталася, а за мною мае спадарожнікі. Неўзабаве мы ўжо сядзелі ва ўтульным дворыку і расказвалі пра віленскую вандроўку. Па ўсім было відаць, што горад гэты Танк любіў, ён бачыў яго сэрцам, распытваў, дзе мы пабылі, і сваімі экскурсамі ў гісторыю значна ўзбагачаў нашы ўражанні. Зайшла гаворка пра "Нашу Ніву", пасля пераключыліся на іншыя выданні. Яўген Іванавіч стаў расказваць пра "Нашу волю", якая таксама старалася згуртаваць творчыя сілы. Пра сябе пажартаваў, што змарнаваў там многа часу над чужымі вершамі: выпраўляў, пісаў адказы. Крытыкаваць імкнуўся далікатна. Пасля такой працы галава рабілася пустая, як бочка, і сваё ўжо не пісалася або лезла нейкае ўбоства. Праўда, калі разабраўся, колькі на літаратурнай ніве халтуршчыкаў, графаманаў, знайшоў выйсце і стаў пісаць, што вялікі Гарацый раіў: "Хай рукапіс паляжыць дзесяць год…" ці пісаў шэраг прозвішчаў і рэкамендаваў абавязкова прачытаць. І вось за гэта яго аднойчы перапыніў нейкі пііт і пригразіў, што знойдзе ўправу і на яго, і на Гарацыя, і на ўсю астатнюю кампанію.

Калі мы ўволю нарагаталіся, Яўген Іванавіч ужо сур'ёзна загаварыў пра тое, як важна распазнаць талент і падтрымаць, з прыемнасцю згадаў, што многім ён дапамог. Назваў некалькі прозвішчаў, і сярод іх — Анатоля Іверса, які яшчэ ў 1936 годзе даслаў нізку вершаў у "Нашу волю". Тут я ўжо не магла не пахваліцца, што гэта мой першы паэтычны настаўнік. Распавяла, што пры першай сустрэчы Іверс цытаваў мне Валянціна Таўлая, нават прыгадаліся радкі: "Маякоўскі па-сяброўску радзіў не збіваць адразу верша з рук — / Пакладзі, замкні яго ў шуфлядзе, / Як адлежыцца, глядзі, / Здавай у друк". Пажартавалі, што тэрмін, паэна, меншы, чым у Гарацыя. Яўген Іванавіч прыгадаў, як у 1939 годзе выступаў разам з Анатолем Іверсам у Мінскім педінстытуце, як пасля ўспаміналі агульных сяброў і знаёмых і прызналіся, што ў Мінск (агітаваў М. Лынькоў) не імкнуцца, бо вельмі ж там цесна багамі заселены Парнас. А потым, відаць, прыгадваючы пакручасты лёс свайго равесніка, нечакана дадаў, што так пачынаеш верыць у волю лёсу.

Веся цікавілася легендамі і скарыстала паўзу, каб перавесці гаворку ў патрэбнае рэчышча. Яўген Іванавіч нарачанскіх паданняў ведаў многа, сам чуў іх ад свайго дзеда і з яго аповеда пра разбойніка з Магдулінскай грэблі стварыў свой "Сказ пра Вяля", але хутка гаворку прыйшлося спыніць — нас паклікалі, бо меліся вельмі рана назаўтра ад'язджаць у Мінск.

Пра гэту сустрэчу я згадала на пятым курсе, бо дыпломную работу хацела пісаць па творчасці Максіма Танка. Алег Лойка, мой навуковы кіраўнік, параіў сустрэцца з паэтам і сам дамовіўся пра час. Я ўзброілася блакнотам, але запісы рабіла пасля ў бібліятэцы, бо спатканне атрымалася своеасаблівым. Яўген Іванавіч чакаў мяне ля ўвахода ў Дом літаратара і сказаў, што павінен пайсці ў міністэрства, у Дом урада, і мы можам або перанесці сустрэчу, або прайсці разам да плошчы і пагаварыць. Я выбрала апошняе.



Складзены папярэдне план гаворкі таксама развaліўся. Калі я паведаміла, што хачу пісаць дыпломную па вершах, напісаных падчас шматлікіх вандровак паэта ў розныя краіны, але не магу вызначыцца з раздзеламі, Яўген Іванавіч неяк дзіўна паціснуў плячыма і сказаў, што не лічыць іх дасканалымі, што пісаліся яны на аснове ўражанняў, захапленняў, а вершы павінны грунтавацца яшчэ і на глыбокім роздуме. Дадаў, што ўжо многае бачыцца па-іншаму, трэба было б перапрацаваць, але і часу нестае, ды і ў друку прыжылося, а сапраўды вартых вершаў, можа, і не набярэцца на дыпломную. Мне не хацелася адступаць (многае было прачытана), а яшчэ пачало здавацца, што аўтар сумняваецца, ці спраўлюся я. Бойка пачала пералічваць тэматычныя кірункі, і, калі дайшла да "асуджэння ўціску", Яўген Іванавіч перапыніў мяне жартам, што ўціск часам станоўча ўплывае на творчасць, робіць яе больш вобразнай, вынаходлівай. І да таго ж калі і дзе ўціску не было. Вось, мяркуй, скардзіўся адзін рэжысёр, што ўвесь сцэнарый "парэзалі". Потым без усякага пераходу прачытаў верш, які пачынаўся наступнай страфой:

*Па беразе хлопец з дзяўчынай*
*ідзе —*
*Настрой рамантычна-лірычны.*
*Гайдаецца там, на празрыстай*
*вадзе,*
*Пейзаж псеўдарэалістычны.*

*Далей, праз увесь верш яны ідуць,*
*ідуць…*

І заканчваўся верш радкамі:

*Здзіўляюся, як жа дагэтуль*
*яшчэ*
*У нас нараджаюцца дзеці.*

Так дайшлі да плошчы. Відаць, заўважыўшы маю разгубленасць, Яўген Іванавіч падбадзёрыў, што такія таленавітыя літаратуразнаўцы, як Лойка і Бугаёў, дапамогуць куды больш, чым ён. Найлепшым суцяшэннем сталі "Лісткі календара" з аўтографам, падараваныя мне на развітанне. Кніга сапраўды паўплывала на выбар тэмы, бо дыпломная была напісана па даверасне́ўскай лірыцы Максіма Танка. Толькі пазней я зразумела, што большасць вершаў з замежных паездак, асабліва ў капіталістычныя краіны, пісалася пад адпаведны ідэалагічны заказ, таму і не ўхваліў мой выбар аўтар.

Пятая сустрэча адбылася на святкаванні 70-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве, у Крамлі. Я прыехала туды ў складзе дэлегацыі ад Гродзенскай вобласці як прадстаўніца настаўніцтва. Пасля доўгага выступлення М. Гарбачова народ пацягнуўся ў вестыбюль. Там і ўбачыла Максіма Танка. Ён толькі развітаўся з нейкім чалавекам і стаяў адзін. Выгляд у яго, як заўсёды, быў спакойны, упэўнены, але ў вачах тулілася трывога.

Пасля звыклых этыкетных слоў ён сумна пажартаваў, што ніяк не можа зжыцца з новай рэчаіснасцю, што з кожным днём павялічваецца колькасць пытанняў, і на многія з іх не знаходзіцца адказаў. І ўжо сур'ёзна дадаў, што яго пакаленне перажыло столькі перабудоў, столькі прыгожых абяцанак і марных надзей, што цяпер ледзь наскрабае рэшткі веры.

Я разгублена маўчала, чамусьці згадаліся радкі з дзённіка паэта, якія некалі ўразілі мяне пранікнёнай шчырасцю: "Стаю над сваёй пустой студняй паэзіі, з якой вычарпаў усё, і не знаю, як хутка зноў яна напоўніцца жывой бруёй. А можа, не напоўніцца?" І ўжо зусім спакойна падумалася: "А і не была ніколі пустой тая студня паэзіі". Яўген Іванавіч тым часам ужо раіў скарыстаць магчымасць і патрапіць у Вялікі тэатр. Я нагадала яму "Запарожца за Дунаем" і пажарную бочку. Так, смеючыся, мы і развіталіся. Пасля яшчэ бачыліся, але размаўляць не выпадала.

# Выпрабаванне настаўніцтвам

Мікола МІШЧАНЧУК

Некалі пад настрой напісалася, што слова "настаўнік" паходзіць не ад дыдактычнага "настаўляць", а ад філасофска-значнага, празрыста-чыстага, як лясная крынічка, "наталяць". Думалася тады, думаецца і цяпер, што з дзяцінства і да самых апошніх імгненняў жыцця чалавек наталяецца ведамі і звесткамі пра свет, у якім жыве, пазнае законы прыгажосці, гармоніі, вучыцца жыць па праўдзе, як неадночы гаварыў незабыўны Аляксандр Салжаніцын. Шчаслівы той, каго наталялі, вялі па сцяжынах жыцця настаўнікі. Вялі прафесійна, шчыра, аддаючы часцінку сваёй душы вучням. Так вёў мяне першы школьны настаўнік Аляксандр Аляксандравіч Севасцьянаў, былы вайсковец. Так наталяў ведамі пра лёс роднай мовы, яе гісторыю, пра сумленне як галоўны крытэрый паводзін, пра нераўнадушша і адданасць справе, якой служыш, камандзір партызанскай разведкі, слынны навуковец-лінгвіст, прафесар, пісьменнік Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Так выхоўваў у зялёным пачаткоўцу, што многае не дабраў у вясковай школцы, прагу навуковага пошуку прафесар Сцяпан Ігнатавіч Карабан… Імёны настаўнікаў (амаль кожнага з іх правёў у апошні шлях) свецяцца для мяне зоркамі і сёння, калі маю сваіх вучняў, калі стаю на апошнім рубяжы.

Антон Аляксандравіч Семяновіч — мой настаўнік. Так, настаўнік. А затым ужо — калега, кіраўнік кафедры, з якім пражыты значны адрэзак часу, здзейсненых многія планы і спадзяванні. Запомніліся яскравыя імгненні-залацінкі, якія ўжо ніколі не вернуцца, што грэюць сэрца і сёння…

Мінск. Лечкамісія. Трэці, калі не памыляюся, паверх. Ужо абараніўшыся, малады кандыдат навук, па рэкамендацыі Ф. Янкоўскага, нясу заяву загадчыку кафедры беларускай літаратуры з просьбай перавесці на яе з сумежнай кафедры рускага і замежнага слоўнага мастацтва. Да гэтага надрукаваў матэрыялы пра сувязь філасофскай лірыкі Я. Баратынскага з творчасцю А. Куляшова, Максіма Танка, "выдыхнуў" на старонкі часопіса "Народная асвета" радкі захаплення паэзіяй М. Багдановіча. Адным словам, пацягнула да бліжэйшага, роднага, беларускага. Было гэта, калі памяць не здраджвае, у далёкім 1973 годзе. Хваляваўся, перажываў: "А што, як не атрымаю згоду?" На шчасце, згоду-блаславенне я атрымаў. І думаю, што мой шаноўны настаўнік не пашкадаваў у далейшым, што заўважыў, падтрымаў навукоўца-пачаткоўца, пазначыў яму яго далейшы шлях…

У Мінскім недінстытуце імя А. М. Горкага кафедра беларускай літаратуры пад кіраўніцтвам прафесара А. Семяновіча (1971 — 1989) сталася важным звяном вучэбна-навуковага працэсу, заняла "свой пачэсны пасад" сярод іншых звёнаў універсітэта. Кіраўнік кафедры, як ён не раз гаварыў, стварыў сабе прыжыццёвы помнік — трохтомнае выданне падручніка "Гісторыя беларускай літаратуры" для студэнтаў філфакаў ВНУ рэспублікі, якое запатрабавана і сёння. Мала хто ведае, колькі высілкаў каштавала гэтая праца Антону Аляксандравічу і яшчэ аднаму майму настаўніку Міхаілу Арсенавічу Лазаруку: трэба было стварыць аўтарскі калектыў з супрацоўнікаў ВНУ Беларусі, Акадэміі навук, скласці канцэпцыю ва ўмовах перабудовы жыцця, пераацэнкі каштоўнасцей, пазбегнуць спрошчвання, сацыялагізацыі эстэтычных з'яў. З лёгкай рукі прафесара А. Семяновіча, пры яго бацькоўскай падтрымцы суаўтарамі выдання сталі маладыя навукоўцы А. Рагуля, М. Шаўлоўская і аўтар гэтых радкоў. Пры ім лёгка пісалася, вольна дыхалася. Ён ніколі нас не падганяў, не прыспешваў, шчыра радаваўся нашым поспехам. Запомніліся яго словы: "Працуйце, хлопцы, шукайце. Але не забывайцеся пра падручнік". Не забываліся, бралі з яго прыклад. Дзякуючы і яму была напісана і абаронена доктарская дысертацыя, стварыўся імідж навукоўцаў яго школы…

Многа сіл і энергіі аддаваў мой настаўнік працы на пасадзе кіраўніка секцыі беларускай літаратуры пры Навукова-метадычным савеце Міністэрства адукацыі. Запомніліся пасяджэнні ў Мінску, Мазыры, Брэсце, Магілёве, дыскусіі па праблемах навучання тэорыі і гісторыі літаратуры, напісання новых праграм, перагляду ранейшай перыядызацыі літаратурнага працэсу. Яскравымі, шчырымі былі выступленні У. Калесніка, М. Лазарука, М. Грынчыка, самога кіраўніка секцыі. Набіралася досведу, сталела моладзь, якая ўдзельнічала ў форумах, знаёмілася з ідэямі, што абараняліся старэйшымі калегамі…

Настаўнікі, старэйшыя калегі… Праз гады выразней бачыцца, адчуваецца іх нялёгкі шлях, іх лёсы — нязломных, сумленных людзей, якія ва ўмовах культу асобы Сталіна, хрушчоўскага валюнтарызму, брэжнеўскага застою пранеслі свой чалавечы гонар і прышчапілі маладзейшым веру ў перамогу дабра, гуманістычных ідэалаў…

Антон Аляксандравіч спавядаўся нам, а пазней — на старонках рэспубліканскага друку — пра нялёгкае дзяцінства, частка якога прайшла ў высылцы, у "раскулачанай нізавошта" сялянскай сям'і. Толькі выпадковасць — трапіў пад амністыю як малалетні і гадаваўся ў сям'і родзічаў — выратавалі яго ад больш суровых выпрабаванняў. У вайну быў партызанскім сувязным, разам з народнымі мсціўцамі набліжаў час перамогі над фашыстамі. Пасля вайны выпрабаванні працягваліся: давялося жыць, ужо супрацоўніку Акадэміі, разам з сям'ёй у галоўным будынку ўстановы разам з такімі ж бесхацінцамі. І пазней шлейф праследавання "кулацкага сына" цягнуўся за ім. Але перамагла праўда, нішто не змагло перашкодзіць навуковаму росту Антона Аляксандравіча: паспяхова абаронена доктарская дысертацыя пра беларускую даваенную драматургію, рэалізаваліся педагагічныя задумкі і планы падчас працы ў МПІ імя А. М. Горкага. Вялікай радасцю стала абарона кандыдацкай дысертацыі па хіміі дачушкай Інай. Палепшыліся бытавыя ўмовы пасля атрымання нармальнай кватэры…

У навуцы мой настаўнік быў першапраходцам… Першая манаграфія пра Максіма Гарэцкага належыць яму. Ён сказаў першае слова пра драматургію Міхася Чарота, Васіля Гарбацэвіча, Уладзіслава Галубка. Лягчэй было б ісці пратаптанымі сцежкамі, а ён сам іх працярэбліваў іншым, пры гэтым быў абачлівым, не "сек з пляча", як робяць сёння некаторыя маладыя даследчыкі.

Прафесар А. Семяновіч асабліва захапляўся старабеларускай літаратурай. Яго кумірамі былі Ф. Скарына, М. Гусоўскі, С. Будны. Удзячныя лектару студэнты-філолагі, паказвалі выдатныя веды па яго дысцыпліне…

За жыццё давялося паспытаць усяго майму настаўніку, калегу: і высылку, і працу слесарам на заводзе ў Мінску, і перапыненую вайной вучобу ў Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага, і выпрабаванні вайной, і нялёгкага хлеба аспіранта, а затым — навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (1946 — 1963). Ды самым ганаровым выпрабаваннем, што выпала на яго долю, было выпрабаванне настаўніцтвам. Доўжылася яно з 1963 па 1989 год, больш як чвэрць стагоддзя. Антон Аляксандравіч вытрымаў яго з годнасцю. І зрабіў не сёе-тое, як любіў гаварыць, а падрыхтаваў разам з калегамі глебу для ўсходаў на ніве асветы, якія ўскаласіліся буйным зернем. І гэтае зерне дало грунт для новых каласоў, для новых усходаў. І дзякуй яму за гэта…

Праз гады чую яго голас, трымаю ў памяці яго шырокую сялянскую ўсмешку, яго постаць, яго рухі, яго "ўказуючы перст". Праз гады ён застанецца Настаўнікам, што запаліў цяпельца веры ў душы не аднаго вучня…

# Туга, якую не выказаць словамі



Алесь МАРЦІНОВІЧ

26 кастрычніка Міколу Мішчанчуку споўнілася б 73 гады. Споўніцца! Толькі без Міколы Іванавіча: да свайго дня нараджэння ён не дажыў нейкія тры тыдні. Збалелае сэрца не вытрымала напружанай працы. Не лепшым чынам на здароўі сказаліся і пастаянныя стрэсы. Але ў каго іх не бывае… Ды калі ты пастаянна знаходзішся сярод многіх людзей — з верасня 2004 года М. Мішчанчук загадваў кафедрай беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна, — то маральна-псіхалагічныя нагрузкі, канечне ж, узрастаюць. Да ўсяго вялікага нервовага напружання патрабавала актыўная творчая праца.

Мікола Іванавіч плённа выступаў у розных жанрах. Хораша заявіў пра сябе як паэт. Важкім і аўтарытэтным было ягонае слова крытыка і літаратуразнаўцы, які чуйна прыслухоўваўся да сучаснага літаратуразнаўчага працэсу і пільна ўзіраўся ва ўчарашні дзень нацыянальнага прыгожага пісьменства, увязваючы тое, што пісалася тады, з набыткамі сённяшніх творцаў. Пра гэта, у прыватнасці, засведчылі яго кнігі "Беларуская літаратура на сучасным этапе", што вытрымала два выданні, "Беларуская паэзія 20-х гадоў" і іншыя.

Апошнім часам М. Мішчанчук плённа працаваў і ў галіне перакладу, звяртаючыся да творчасці выдатных паэтаў. У тым ліку і тых, якія пісалі па-руску, будучы перакананым, што нават калі чытач добра ведае мову арыгінала, яму прыемна прачытаць любімыя творы на сваёй роднай, беларускай мове, каб лішні раз упэўніцца ў тым, наколькі яна мілагучная, непаўторная, як дазваляе ў тым, што было выказана на мове іншай, захаваць усю нерушавасць слова і, больш за тое, як бы надаць новае гучанне знаёмым словам, вобразам, а яшчэ пранікнуцца ўсведамленнем таго, што няма мяжы паэтычнаму майстэрству. Паэт і перакладчык, калі яны валодаюць належным талентам, могуць прамаўляць на роўных, бо ёсць і тое, што збліжае іх апроч творчага даравання, — гэтага любоў да літаратуры, да паэзіі.

З Міколам Іванавічам я пазнаёміўся, калі ў 1972 годзе пачаў працаваць у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва". Былі сустрэчы рабочыя: М. Мішчанчук з'яўляўся адным з пастаянных аўтараў "ЛіМа". Былі і ў фармаце, як гаворыцца, без гальштука. Мікола Іванавіч быў чалавекам шчырым, адкрытым. З ім лёгка гаварылася і лёгка знаходзілася агульная мова. Пагаварыць жа было пра што. Дый яшчэ да нашай кампаніі далучаліся і іншыя супрацоўнікі штотыднёвіка. Найчасцей — Уладзімір Аніскові і Юрась Свірка. Пасля таго, як Уладзімір Ігнатавіч звольніўся з рэдакцыі, часам збіраліся ўтраіх: М. Мішчанчук, Ю. Свірка і я. Колькі было перагаворана, колькі... цікавых задум нарадзілася! І ўсё тое, пра што гаварылася, як і тое, пра што пазней пісалася, рабілася ад шчырай душы. Не ў апошнюю чаргу таму, што шчырасць Міколы Іванавіча перадавалася нам.

Нездарма кажуць: у жыцці нічога выпадковага няма. Усё мае нейкую сувязь. Часам невытлумачальную, а то і такую, калі адбываецца нейкае дзіўнае супадзенне. Гэтыя радкі я пішу ў пятніцу 5 кастрычніка, а ўчора мне ў рукі выпадкова трапіўся нумар часопіса "Роднае слова", датаваны лістападам 2008 года. Разгарнуў яго і ўбачыў пачатак артыкула М. Мішчанчука "Ластаўка з Палесся". Вывучэнне паэзіі Яўгеніі Янішчыц у школе". Міжволі ў памяці ажылі шмат якія сустрэчы з Міколам Іванавічам. І вось гэтае развітальнае слова...

Цяпер адна з цытат з верша Я. Янішчыц набывае асабліва глыбокі сэнс, які датычыцца ўжо і самога М. Мішчанчука:

*Ёсць у мяне зялёная зямля,*
*Яна магутней слабасці і смерці.*
*Ёсць у мяне глыбінная туга*
*Па далавых і ціхіх берагах.*
*Ёсць у мяне на пальцах мазалі —*
*Таксама ад любові да зямлі.*

Вечна тужыцца яму па роднай зямлі. Нам жа журыцца, што няма яго разам з намі. Ды так ужо задумана Усявышнім: чалавек прыходзіць і сыходзіць, каб пакінуць пра сябе памяць.

Хай будзе пухам табе родная зямля, незабыўны Мікола Іванавіч!

# Выспа энтузіязму

## БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА 2000-х

**Уплывовасць тэндэнцыі да агульнай скіраванасці літаратуразнаўства ў рэчышча кантэкстуальных доследаў у беларускім літаратуразнаўчым дыскурсе пачатку XXI ст. абумоўліваецца шэрагам фактараў макралагічнага кшталту. Сярод іх асаблівую важкасць набываюць, на наш погляд, парадыгмальнае станаўленне інфармацыйнага грамадства і дынамізм сацыякультурных трансфармацый.**

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

Пад парадыгмальным станаўленнем інфармацыйнага грамадства ў дадзеным выпадку маецца на ўвазе фарміраванне новай інфармацыйнай рэальнасці, якая радыкальным чынам змяняе ўмовы жыццядзейнасці чалавека. Адным з наступстваў пашырэння ўплывовасці згаданых фактараў паўстае феномен "глакалізацыі", альбо сітуацыя так званага *глакальнага свету*: захоўваючы агульныя рысы глабалізаванасці, ён адначасова набывае тэндэнцыі лакальнага ці рэгіянальнага развіцця. Так, Э. Гідэнс у межах сваёй канцэпцыі сучаснасці ўказвае на канфлікт паміж найноўшымі тэхналогіямі камунікацыі і ростам патрэб у лакальнай аўтаноміі ды культурнай ідэнтычнасці, звязанай з панятцем традыцыі як прадуктам беспярэрыўнай інтэрпрэтацыі. Варта зазначыць, што на актывізацыю працэсаў "этнакультурных рэнесансаў" беларускае літаратуразнаўства ў 2000-я гады зрэагавала досыць неадназначна.

Упэўненасць навукоўцаў у тым, што ва ўмовах інфармацыйнага грамадства роля кампаратывістыкі будзе няўхільна ўзрастаць, павінна была б спрыяць актывізацыі дзейнасці ў адпаведным сегменце даследаванняў, скіраваных "не толькі на выяўленне тыпалагічнага падабенства мастацкіх з'яў у творчасці айчынных і замежных аўтараў, але і на раскрыццё адметнасці нацыянальнага пісьменства, вызначэнне яго ўнёску ва ўзбагачэнне духоўнасці свету" (А. Вальчук). Сапраўды, і вынікі даследаванняў, якія вяліся ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі (прадстаўлены ў калектыўных зборніках "Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур XIX — XX стст." (2006), "Еўрапейскі рамантызм і беларуская літаратура XIX — XX стст." (2008)), і плён працы іншых літаратуразнаўцаў у гэтым кірунку даюць падставы для самых высокіх ацэнак і аптымістычных прагнозаў.

Статус аднаго з прыярытэтных напрамкаў беларускай кампаратывістыкі ў першае дзесяцігоддзе XXI ст. захоўваўся за славістыкай. Пра гэта сведчаць працы, што ўвайшлі ў грунтоўнае выданне "Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей: культурна-гістарычны і літаратуразнаўчы аспект праблемы" (2002), у зборнік матэрыялаў міжнароднай канферэнцыі "Сучасная беларуская літаратура і працэсы славянскага культурнацывілізацыйнага ўзаемадзеяння" (2008), а таксама кнігі Т. Кабржыцкай "Дзве Радзімы — Украіна і Беларусь — пад міратворчымі крыламі буслоў: нацыянальныя гісторыка-культурныя міфы, ідэйна-эстэтычныя пошукі ўкраінскай і беларускай літаратур" (2011), Г. Тычко "Творчасць Янкі Купалы і традыцыі духоўнай рэгіянальнасці ў польскай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзяў" (2001), публікацыі ў навуковай (у тым ліку замежнай) і літаратурна-мастацкай перыёдыцы. Нягледзячы на разнастайнасць вектараў і праблематыкі доследаў, метадалагічных падыходаў і прынцыпаў, згаданыя працы выяўляюць агульную канцэптуальную скіраванасць пошукаў айчыннай славістыкі: асэнсаванне ўзаемасувязей і ўзаемаўплываў літаратур разгортваецца ў прасторы грамадска-гістарычных, культурных, мастацкіх узаемадачыненняў славянскіх народаў, прычым найважнейшай сутнаснай характарыстыкай згаданай прасторы паўстае *дыялагічнасць*.



Фота Кастуся Дробава

Зрэшты, у гэтым жа рэчышчы асэнсоўваюцца не толькі праблемы літаратурнакультурнага ўзаемадзеяння славянскіх народаў, але і вынікі (з пазначэннем верагодных перспектыў) "культурна-гістарычнай камунікацыі" беларускай і еўрапейскай літаратурна-мастацкіх традыцый. Вопыт падобных даследаванняў знайшоў адлюстраванне ў кнізе Д. Лебядзевіча "З жыватворных крыніц Гелікона: Антычная спадчына і станаўленне беларускай класічнай літаратурнай традыцыі" (2002), манаграфіях Т. Тарасавай "Духоўны досвед беларускай прозы XX ст. і еўрапейскі кантэкст" (2009), У. Чароты "Дантэ Аліг'еры і беларуская літаратура XX стагоддзя" (2009), шэрагу артыкулаў, дакладаў на міжнародных форумах. Асобнай увагі заслугоўваюць кнігі Е. Лявонавай "Беларуская літаратура XX стагоддзя і еўрапейскі літаратурны вопыт" (2002), "Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры" (2003). І першы дапаможнік (адрасаваны студэнтам-філолагам), і асаблівa другі (паводле анатацыі, разлічаны найперш на настаўнікаў) на працягу ўжо амаль дзесяцігоддзя з поспехам выконваюць функцыю не толькі ўласна адукацыйную, але і культурнаасветніцкую, бо матывуюць чытачоў з рознай ступенню дасведчанасці ў гісторыі нацыянальнай і сусветнай літаратуры да спасціжэння беларускага прыгожага пісьменства не як "рэчы ў сабе", але як унікальнага "складніка літаратурнага ўніверсуму, прыналежнасць да якога вызначаецца складанай сістэмай узаемасувязей — гісторыка-тыпалагічных і кантактнагенетычных".

У 2000-х гадах мэтанакіраваную цікавасць айчынныя літаратуразнаўцы пачынаюць выяўляць да феномена памежжа, перадусім — у аспекце яго шматпланавай уплывовасці на нацыянальную мастацкую славеснасць. У гэтым выпадку асэнсаванне літаратурных з'яў, працэсаў, тэндэнцый па вызначэнні разгортваецца на міждысцыплінарным грунце. Прычым якраз у першае дзесяцігоддзе XXI ст. у пошуках крыніц абнаўлення метадалогіі і асабліва метамовы літаратуразнаўства даследчыкі ўсё больш ахвотна засвойваюць вопыт этнічнай антрапалогіі, этнапсіхалогіі (так званай псіхалогіі народаў), метады кроскультурных доследаў, тэорыі постіндустрыяльнага, інфармацыйнага грамадства і да т. п. Пра характар і нарастанне тэмпаў своеасаблівай "экспансіі" літаратуразнаўства ў катэгарыяльна-панятыйныя і метадалагічныя сістэмы сумежных (і не толькі) навуковых дысцыплін можна меркаваць па падставе аналізу выдання "Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка: XIII Міжнародны з'езд славістаў (Любляна, 2003): Даклады беларускай дэлегацыі" (2003), трохмоўнага зборніка артыкулаў "Феномен пагранічча: польская, украінская і беларуская літаратура — уплывы і ўзаемаўзбагачэнне" (выдадзенага ў 2008 годзе па выніках міжнароднай канферэнцыі, што адбылася годам раней у польскім горадзе Люблін), зборніка навуковых прац "Феномен памежжа. Славянскія мовы, літаратуры і культуры: этнас у святле гісторыі і сучаснасці" (2009), асобных публікацый у электронных і друкаваных выданнях.

> *У 2000-х гадах мэтанакіраваную цікавасць айчынныя літаратуразнаўцы пачынаюць выяўляць да феномена памежжа, перадусім — у аспекце яго шматпланавай уплывовасці на нацыянальную мастацкую славеснасць. У гэтым выпадку асэнсаванне літаратурных з'яў, працэсаў, тэндэнцый па вызначэнні разгортваецца на міждысцыплінарным грунце.*

Намаганні рэалізаваць у айчынным дыскурсе шэраг ідэй, падыходаў і метадаў, што апошнім часам набылі статус метадалагічных "трэндаў" сусветнай кампаратывістыкі (да згаданых вышэй можна далучыць тэзаўрусны, марфалагічны падыходы, ідэі фенаменалогіі, лінгвакультуралогіі, псіхалінгвістыкі, іміджалогіі і інш.), павінны былі б спарадзіць усплёск даследчыцкай актыўнасці ў галіне асэнсавання тэарэтычных праблем сучасных параўнальнагістарычных і параўнальна-тыпалагічных доследаў. Але ўражвае якраз адзінкавасць падобных прац, да ліку якіх можна аднесці кнігі Г. Адамовіч "Літаратура — кантэкст — тэзаўрус" (2003), "Асновы кампаратывістыкі" (2009), асобныя раздзелы ў згаданых вышэй калектыўных зборніках, даволі рэдкія публікацыі ў навуковай перыёдыцы. Гэта прымушае паглядзець на агульную сітуацыю з беларускай кампаратывістыкай у іншым (куды менш аптымістычным) ракурсе. Справа, на наш погляд, не ў адсутнасці аўтарытэтных даследчыкаў і зусім не ва ўяўнай "неканкурэнтаздольнасці" іх прац, на якую часам наракае не толькі публіка "калянавуковая", але і прадстаўнікі ўласна навуковай супольнасці. Падчас асэнсавання сітуацыі і ў дыяхранічным разрэзе (нават у зоне "блізкага ўплыву" — на фоне развіцця беларускай кампаратывістыкі ў 1990-я гады, не кажучы пра другую палову 1970-х — 1980-я), і ў сінхранічным зрэзе (у суадносінах з разгортваннем адпаведных доследаў на постсавецкай прасторы перыяду 2000-х) становіцца відавочнай супярэчнасць паміж узрастаннем запатрабаванасці падобных доследаў і замаруджанай рэакцыяй на гэта айчыннага навуковага дыскурсу. Пры гэтым вырашэнне сітуацыі ў канструктыўным ключы наўпрост залежыць ад таго, ці здолее (і наколькі хутка) айчынная кампаратывістыка ажыццявіць пераход ад "энтузіясцкага" тыпу існавання (калі доследы цягам доўгага часу "жывяцца" энтузіязмам даволі нешматлікага "цэху" даследчыкаў) да стратэгічна скіраванага ўстойлівага развіцця.

Абвастраную актуальнасць згаданы тэзіс набывае і ў дачыненні да тэрміналагічнай працы ў галіне літаратуразнаўства, пра выніковасць якой звычайна мяркуюць паводле якасці літаратуразнаўчых слоўнікаў (даведнікаў па тэорыі літаратуры): яны павінны не толькі акумуляваць вопыт абагульнена-тэарэтычнага вывучэння літаратурна-мастацкіх феноменаў і працэсаў, але і дэманстраваць рэальныя набыткі прыгожага пісьменства (у тым ліку найноўшага). У межах першага дзесяцігоддзя XXI ст. гэты сегмент бачыцца яшчэ адной "выспай энтузіязму", навуковая жыццядзейнасць на якой найбольш паслядоўна падтрымлівалася намаганнямі В. Рагойшы. Больш чым праз тры дзесяцігоддзі пасля выхаду "Паэтычнага слоўніка" (1979), амаль праз чвэрць стагоддзя пасля з'яўлення другога, дапрацаванага і дапоўненага, варыянта згаданага выдання (1987) пабачыла свет "Тэорыя літаратуры ў тэрмінах" (2001), якая аўтарам разглядаецца як развіццё папярэдніх прац падобнага кшталту. Так, калі ў "Паэтычным слоўніку" прадстаўленыя значэнні 800 тэрмінаў, дык "Тэорыя літаратуры…" змясціла больш як 1100 панятцяў, асноўная частка якіх вытлумачаецца ў міждысцыплінарным ракурсе; пры гэтым істотна пашыраны межы панятцяў "высокай" мастацкай славеснасці, не абышоў увагай даследчык і панятцe "масавай літаратуры"…

І ўсё ж нягледзячы на заклікі навукоўцаў гуртам працаваць над стварэннем такой метамовы, якая дазволіла б адэкватна асэнсоўваць і апісваць сутнасныя змены, што адбываюцца і ў самім мастацтве слова, і з літаратурай у найноўшай культурнай прасторы, пакуль справа не ідзе далей адзінкавых "сустрэч" класічнай тэрміналагічнай традыцыі з сучаснымі тэарэтыка-метадалагічнымі канцэпцыямі.

# Жыць — для натхнення



Міхась КЕНЬКА

Зборнік вершаў Аліны Легастаевай, які надоечы выйшаў у выдавецтве "Чатыры чвэрці" пад назвай "Когда-нибудь…", — далёка не адзіны ў яе творчай біяграфіі.

Вершы Аліна Антонаўна стварае на беларускай і рускай мовах — па натхненні, як падкажа муза. Доўгі час паэтэса жыла за межамі роднай краіны, у Расіі, дзе прывучылася думаць на дзвюх мовах. Два яе зборнікі "Яшчэ да Евы я жыла" (1998) і "Кветак позняе святло" (2006) склалі вершы, напісаныя на роднай мове. Але прасілася з душы і слова, што выспела на той мове, да якой прызвычаілася падчас доўгіх гадоў, праведзеных удалечыні ад радзімы, у тых умовах, калі і гаварыць, і думаць давялося ў іншым моўным асяроддзі. Так нарадзіліся зборнікі "На вертикали сердца" (1999), "Яблочный Спас" (2006), "Поле жизни моей" (2011). І вось новая кніга, прадстаўленая таксама рускамоўнымі вершамі. Яны надзвычай жывыя, непасрэдныя, выказаныя самымі звычайнымі, простымі словамі:

*Случайно встретились,*
*Случайно улыбнулись.*
*Случайно две руки соприкоснулись.*
*Случайно в танце*
*Оказались рядом,*
*Случайно выдержали*
*Испытанье взглядом,*
*Случайно слово*
*Сорвалося с уст,*
*Случайно всё —*
*И даже вспышка чувств…*

І ўсё ж паэтэса не баіцца ўзнёслага тону, калі гаворыць пра высокае пачуццё кахання, пра яго сувязь з сэнсам жыцця, з маральнымі прынцыпамі:

*Люблю. И знаю: в этом слове*
*Суть бытия заключена.*
*И ничего не надо, кроме*
*Любви — она всему цена.*
*В ней зарожденье каждой жизни,*
*Зов предков и борьба стихий,*
*Служенье долгу и Отчизне,*
*И святость наша, и грехи…*

У кнізе сабраныя вершы розных гадоў, у тым ліку і раней апублікаваныя. Адны з іх народжаныя першым пачуццём, калі радасць перапаўняе і хочацца ўсяму свету адкрыцца ў самым інтымным, калі закаханасць пабуджае бачыць усё навокал у светлых танах.

Іншыя ж вершы прасякнутыя мудрасцю і філасофскім роздумам сталага чалавека над перажытым, перабалелым. Каханне бачыцца нібы зводдаль, з вышыні ўзросту. І тады гучыць не толькі пяшчота і замілаванне, але і цёплая ўсмешка, гуллівая іронія:

*Не теряй меня… Не теряй…*
*Наши судьбы порой жестоки.*
*Неизвестно, в ад или рай*
*Приведут нас с тобой дороги.*

*И на грешницу не молись —*
*Я не жрица и не икона.*
*Просто так захотела жизнь,*
*А она выше сил закона.*

*Ей, единственной, ясно всё,*
*Когда нам ничего не ясно.*
*Так сказало сердце моё,*
*А твоё разве не согласно?*

Шэраг вершаў зборніка закранае філасофскія матывы. Аліна Легастаева задае сабе пытанні: што ёсць сумленне, дабрачыннасць, лёс, шчасце, перабірае розныя варыянты, разважае і ўрэшце дае свой адказ.

Нямала ў кнізе вершаў, навеяных уражаннямі ад вандровак і месцаў, дзе даводзілася жыць, з якімі звязаныя шчаслівыя хвіліны і добрыя ўспаміны. У некаторых з іх гучыць светлая настальгія па мінулым, па тым незабыўным пачуцці, што цяпер згадваецца з тугой і замілаваннем, як у гэтых вось радках:

*Давай с тобою поиграем в детство.*
*Забуду я, что ты уже седой,*
*И ты на миг представь меня беспечной*
*Девчонкою с улыбкой озорной.*

Кожны паэт імкнецца знайсці ўласны непаўторны стыль. У Аліны Легастаевай адметнасцю паэтычнага почырку з'яўляецца ўменне быць гранічна шчырай і адкрытай у выяўленні пачуццяў. Яна валодае выдатным адчуваннем дарэчнасці выказвання, не дазваляе сабе саслізнуць у банальнасць, крыклівасць, безгустоўнасць, штучнае нагнятанне эмоцый. Умее знаходзіць сюжэты ў паўсядзённым жыцці, уздымае канкрэтны выпадак да абагульнення, паваротвае жыццёвую сітуацыю так, што яна набывае нечаканы новы, арыгінальны падтэкст.

Зборнік валодае такой якасцю, як цэльнасць: адзін верш дапаўняе другі, трэці — і ўсе разам яны ствараюць уражанне даверлівай, шчырай размовы пра самае запаветнае. І хочацца верыць, што кніга вершаў пра каханне закране за жывое чытачоў рознага ўзросту, бо яна разлічана на суперажыванне, абуджэнне думак пра сугучнае ўласным пачуццям.

# «Наддзвінне»: ад пачатку да сёння



Галіна ЗАГУРСКАЯ

У Полацкім кніжным выдавецтве выйшла кніга краязнаўца Віктара Карасёва "«Наддзвінне»: ад пачатку да сёння", у якой аўтар прасачыў шлях аднайменнага народнага літаратурнага аб'яднання на працягу 1926 — 2011 гг.

У кнізе змешчаны ўспаміны вядомых літаратараў, якія пачыналі з "Наддзвіння": А. Савіцкага, І. Стадольніка, Н. Гальпяровіча, Г. Кірылава і інш. Усе яны з цеплынёй гавораць пра літаратурную суполку, якая дала штуршок іх творчасці, паспрыяла развіццю таленту.

"У маім асабістым пісьменніцкім лёсе — і хіба ж толькі ў маім! — "Наддзвінне" было нялёгкай, пакручастай і радаснай пуцявінаю ў шырокі літаратурны свет. І зараз, на згоне жыцця свайго, у маёй душы не згасае агонь невымернай шчырай падзякі маладым, бурапенным і дзівосным дням, што працяклі на берагах роднай Дзвіны", — так выказаўся Алесь Савіцкі пра ролю літаб'яднання ў яго жыцці.

Віктар Карасёў расказвае пра калектыўныя зборнікі, выдадзеныя "Наддзвіннем" за час яго існавання, і дае кароткі аналіз творчасці прадстаўленых аўтараў. Кніга багата ілюстравана. У ёй змешчаны фотаздымкі кіраўнікоў, сяброў аб'яднання, вокладак першых альманахаў, першай газетнай старонкі з назвай "Наддзвінне" і фрагментаў лістоў А. Дудара (стваральніка згуртавання).

Хачу пазнаёміць чытачоў "ЛіМа" з гісторыяй полацкай суполкі, якая легла ў аснову кнігі В. Карасёва і якая непарыўна звязана з гісторыяй нашай краіны.

…20-я гады мінулага стагоддзя былі тым перыядам, калі кіраўніцтва рэспублікі ўзяло курс на беларусізацыю. Пачалі ствараць літаратурныя аб'яднанні ў абласных і раённых цэнтрах. І ў Полацку ў 1925 годзе была створана філія сталічнага "Маладняка" пры рэдакцыі акруговай газеты, якая на той час называлася "Полоцкий пахарь" (з лютага 1926 года газета выходзіла пад назвай "Чырвоная Полаччына"). З мэтай стварэння філіі сюды быў накіраваны Алесь Дудар.

У канцы 1928 года "Маладняк" быўператвораны ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх паэтаў і пісьменнікаў (БелАПП). Полацкае згуртаванне працягвала сваё існаванне спачатку як філія БелАПП, а пасля — само па сабе, аб'ядноўваючы літаратурныя сілы Полаччыны. У мясцовай газеце з рознай перыядычнасцю выходзіла літаратурная старонка "Наддзвінне".

На тых даўніх старонках мы знаходзім творы Алеся Звонака, Сымона Хурсіка, Сцяпана Сямашкі, Яна Скрыгана, Петруся Броўкі, Тараса Хадкевіча, Андрэя Александровіча...

З пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя пачынаецца новая старонка гісторыі, калі згортваецца і НЭП, і палітыка беларусізацыі… Але той кароткі перыяд дзейнасці літаратараў полацкай філіі ўвайшоў у гісторыю беларускай культуры як перыяд абуджэння маладых творчых сіл на полацкай зямлі.



Кіраўнік "Наддзвіння" Мікалай Балдоўскі.

…Ішоў час. Выбухнула Вялікая Айчынная вайна. У радах Чырвонай Арміі, у партызанскіх атрадах, у рэдакцыях франтавых газет змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і сябры літаб'яднання "Наддзвінне": браты Сцяпан і Мікалай Сямашкі, П. Броўка, Т. Хадкевіч, У. Ліхачоў, С. Хурсік, А. Астрэйка, У. Яцкевіч, Н. Ярмак Т. Лясовіч, А. Савіцкі.

А пасля вайны літаб'яднанне "Наддзвінне" і літаратурная старонка полацкай газеты адрадзіліся дзякуючы Алесю Савіцкаму, вядомаму цяпер пісьменніку, лаўрэату дзяржпрэміі, Ганароваму грамадзяніну Полацка.

Кіраўнікамі літаб'яднання былі Валянцін Лукша, Юрый Лыжын, Уладзімір Ліхачоў, Іван Стадольнік. Апошні ў сваіх успамінах піша пра той перыяд: "У маёй памяці Полацк і "Наддзвінне" засталіся амаль што галоўнай часткай майго творчага жыцця".

На змену Івану Стадольніку ў якасці кіраўніка аб'яднання прыйшоў Міхась Барэйша. На жаль, ён заўчасна памёр, і на пасадзе яго замяніў Юрась Касцюк.

З лютага 1994 года старшынёй літаб'яднання стаў Герман Кірылаў. У гэтым годзе "Наддзвінне" атрымала ганаровае званне *народнае*. У 1998-м годзе праводзіўся Першы Усебеларускі фестываль "Беларусь — мая песня", за ўдзел у якім "Літаб'яднанне" было адзначана дыпломам лаўрэата і грашовай прэміяй. На гэтыя сродкі ў 1999 годзе, пасля доўгага перапынку, быў выдадзены чарговы нумар альманаха "Наддзвінне".

Затым старшынёй літаб'яднання стала паэтэса Лера Сом. Пад яе рэдакцыяй у 2004 годзе выйшаў чарговы нумар альманаха.

Новы перыяд у жыцці суполкі пачаўся з 2006 года, калі кіраўніком аб'яднання стаў Мікалай Балдоўскі. Змянілася не толькі кіраўніцтва згуртавання, але і яго склад. За кароткі час аб'яднанне папоўнілася новымі сябрамі, быў узяты кірунак на выданне калектыўных зборнікаў і аўтарскіх кніг. Альманах "Наддзвінне" было вырашана выдаваць раз у два гады, а зборнік з серыі "Літаратурнае Наддзвінне" — штогод.

За апошнія пяць год былі выдадзены калектыўныя зборнікі "Вытокі" (2007), "Па быстрыні" (2008), "Свята назаўжды" (2009), "Гулкая плынь" (2010). З'явіліся таксама аўтарскія кнігі многіх сяброў аб'яднання. Па-ранейшаму ў газеце "Полацкі веснік" выходзяць літаратурныя старонкі "Наддзвінне", якія заўсёды прыцягваюць увагу чытачоў.

Наддзвінцы актыўна ладзяць сустрэчы са студэнтамі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, з навучэнцамі школ, гімназій, ліцэяў, каледжаў, з чытачамі бібліятэк у Полацку і Наваполацку, з вайскоўцамі Полацкага гарнізона. Ведаюць наддзвінцаў і ў раёне, дзе іх заўсёды цёпла прымаюць.

…Ідзе час, мінаюць дзесяцігоддзі, а старэйшае літаратурнае аб'яднанне Полаччыны жыве, папаўняецца новымі творчымі сіламі. Так было і так будзе.



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

## Верлібры пажоўклага лісця

***

*пачынаць гэты верш*
*з лістападу*
*банальна*
*штогод*
*такою ж парою*
*дрэвы скідаюць сукні*
*што пабуджае*
*кожнага айчыннага арфея*
*выдаць чарговы шэдэўр*
*пра страчанае каханне*
*пра тугу па ім*
*абвінаваціць ва ўсім*
*гэтае няшчаснае лісце*
*і такіх вершаў*
*з'яўляецца столькі*
*колькі апалых кляновых лістоў*

*налі мне ў келіх сэрца*
*віна ў колер жахлівае жарсці*
*удыхні ў мае грудзі*
*волкае восеньскае паветра*
*з водарам памерлага*
*лісця*

***

*Стракаты начны матылёк*
*сеў на гузік маёй кашулі*
*Стракаты начны матылёк*
*прызямліўся якраз на*
*поўначы сэрца*
*да поўначы толькі крок*
*вяртаюся ад цябе*
*ў напаўпустым аўтобусе*

*Стракаты начны матылёк*
*у вершы*
*хіба не класічны вобраз кахання?*

*канечне*
*рамантыка ды й толькі*
*не рамантыка тут ні пры чым*

*проста*
*Стракаты начны матылёк*
*нагадаў пра цябе*

***

*у скверы дзе хлопчык*
*шыю лебедзю лашчыць*
*назіраеш як сыходзіць у небыццё*
*чарговы працоўны дзень*
*на таполях аголеных*
*паграквають гракі*
*сонца хаваецца за horizont'ам*
*рэканструююць тэатр*
*ты пайшоў наўпрост за сонцам*
*і трапіў пад колы легкавіка*

### Пустэльня

*пустое неба*
*пустыя дрэвы*
*пустыя бутэлькі*
*пустыя вочы*
*мастачка-восень*
*намалявала*
*карціну*
*на якой*
*толькі хіба кілімы жоўтага лісця*
*сведчаць пра тутэйшасць пейзажу*

***

*Пятніца*
*Мілаш і*
*Ты*
*ператвараюцца ў*
*Пяшчоту й*
*Мілосць*
*Толькі*
*Даруй мне гэты смелы верлібр*
*Пяшчота*
*Мілаш*
*і Ты*



Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

***

*Прамень апошні сонца*
*Дагарыць —*
*І ліхтары,*
*Нагамі дагары,*
*Пасыплюцца*
*Іскрынкамі ў ваду —*
*Каб вечар іх,*
*Як свечкі,*
*Не задзьмуў.*

***

*Вірлівая дарога абрусамі*
*Суцеле лагодную і цёплую зямлю;*
*Жалеза колаў, што гудзе над намі,*
*Распачынае песеньку сваю —*

*Свяшчэнны спеў для новых пілігрымаў,*
*Курантаў цягніка бясконцы бой.*
*Дарогі, кажуць, ўсе вядуць да Рыма, —*
*Але тады у кожнага ён свой.*

*Дарога і нястомна, і няспынна*
*Плыве, бруіць і кліча нас услед.*
*І з часам уцякае хуткаплынным*
*Па ёй у будучыню вечна новы свет.*

*І круціцца ў такт гэтым колам сонца,*
*і блізкі далягляд хіба што ў сне.*
*Ісці нам вечна — гэты шлях бясконцы*
*І, як рака, назад не крутане.*

***

*У бездані каралямі — сузор'і.*
*Ты з аксаміту вечнае начы*
*Сваё імя, свой горды герб сатчы,*
*Першапраходзец у міжзорным моры.*
*Ды памятай:*



**Фота Кастуся Дробава**

*Ўзыходы соцень сонцаў*
*Над хмурнымі абліччамі планет,*
*Віры Галактыкі,*
*Увесь Сусвет*
*Ляжаць на цёплае*
*Дзіцячае далоньцы.*

### Позні жнівень

*На крок мы апярэдзім лістапад*
*І выйдзем з-пад завесы жаўталісця.*
*Асенні вецер далягляд ачысціць,*
*Каб хмары не вярнуліся назад.*
*Сухіх лістоў ласкавыя далоні*
*Пяшчотна гладзяць нас па валасах,*
*А заўтра будуць — пад нагамі прах,*
*Пыл беспрытульны на рачным улонні.*
*На крок мы апярэдзім лістапад.*
*З апошнім летнім водбліскам на тварах —*
*Мільгнём у небе і, як тыя хмары,*
*Ніколі больш не вернемся назад…*

### Крэда

*Вера мая — знявер'е.*
*Белай паперы пер'е*
*Ліпне да рук, бы косы*
*Дажджоў сярэбравалосых.*

*Вера мая — надзея.*
*Простасці кветка — лілея —*
*Белая.*
*Хочаш — лісты*
*Шлі ў курodым густы.*

*Вера — мая слабасць.*
*Так надыходзіць сталасць,*
*Так ападае стыхія…*
*Зірнеш — валасы й сівыя.*

***

*Нашы думкі, як лісце:*
*Трапечуць,*
*Б'юцца ў скронях —*
*як полымя ў печы;*
*Самі*
*на эшафот свой*
*узлазяць —*
*як святочныя карпы*
*ў Празе…*

***

*Мне прысніўся старажытны горад —*
*Зваўся ён у сне маім Парыжам.*
*Працінае хмары дах сабора,*
*Цягнучы ўвесь горад вышай, вышай.*
*Плошчаў шум і ціша цесных вуліц,*
*Вусцішныя статуі, скляпенні…*
*Вір. Натоўп. І ў чалавечым тлуме, —*
*Са званіцы ціхае маленне.*
*Мне прысніўся старажытны горад —*
*Зваўся ён у сне маім Парыжам —*
*І ляцеў, бязважкі, за саборам,*
*Сярод хмар, да сонца — вышай, вышай…*



Валянцін СЕМЯНЯКА

### На досвітку

*На досвітку прырода спіць*
*І цішыня стаіць такая,*
*Што чутна, як раса дрыжыць*
*І кропля долу ападае.*
*Лес трызніць сонечным цяплом,*
*А неба — ранішнім блакітам.*
*Усё наўкол салодкім сном,*
*Нібыта водарам, спавіта.*
*Бясконцы велічны прастор*
*Над сумнай безданню лунае.*
*Глядзіцца у бязмежжа зор*
*Ракі паверхня люстраная.*
*Нямыя постаці дубоў*
*Застылі ў роспачным чаканні.*
*Сівыя дні былых гадоў*
*Ім, пэўна, мрояцца уранні.*
*Павее ветрык незнарок,*
*Абудзіць птушак гаварлівых,*
*І зробіць самы першы крок*
*Насустрач сонцу дзень імклівы.*

***

*Не хачу быць такім, як усе,*
*Але гэта часамі здараецца —*
*Хто свой крыж на Галгофу нясе,*
*Той міжволі усё ж спатыкаецца.*
*І няма ў гэтым нашай віны,*
*Што гара круцізной вызначаецца,*
*Што на ёй скрозь ляжаць камяні,*
*І сабраць іх ніхто не збіраецца,*
*Што на пальцах знявечаных кроў,*
*Што спіна потам злым абліваецца,*
*Што ўжо шмат хто з адданых сяброў*
*Несці ношу сваю адмаўляецца.*
*Вось і хочацца шлях спраставаць*
*І сысці ўбок з усімі смяротнымі,*
*Іх крыжы пад Галгофай ляжаць*
*Нібы здзекі над імі, гаротнымі.*
*Не хачу быць такім, не хачу!*
*Хоць і знаю, што зноў памыляюся,*
*Сцяўшы зубы, іду і маўчу —*
*І спыняцца пакуль не збіраюся.*

### Чужая воля

*Я кахаў цябе па-сапраўднаму,*
*Як нікога ніхто ніколі.*
*Ды закралася птушкай здраднаю*
*Паміж намі чужая воля.*

*За сабой неўпрыкмет паклікала,*
*Шчасце новае абяцала.*
*І без роздуму ўсё вялікае*
*Ты на дробязі размяняла.*

*Можа, гэта зусім не дробязі,*
*Як у іх для цябе спакуса —*
*І сплятаюцца рукі ў повязі,*
*І шукаюць ратунку вусны…*

*Нам пачуцці не падуладныя!*
*Толькі сэрца шчыміць да болю —*
*Я ж кахаў цябе па-сапраўднаму,*
*Як нікога ніхто ніколі.*

# Вяртанне праз сэрцы



*Канвалют выданняў Ф. Скарыны з фондаў Верхнялужыцкай навуковай бібліятэкі (г. Гёрліц, Германія).*

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Наталіі Купрэвіч**

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў межах сумеснага праекта Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі працуе выстаўка "Францыск Скарына: падарожжа на Радзіму".

Калі праект знаходзіўся на стадыі падрыхтоўкі і распрацоўкі, толькі энтузіясты верылі, што такая смелая задумка можа ўвасобіцца ў жыццё, і працягвалі працаваць. Гэтую падзею можна назваць адной з самых яркіх кропак Года кнігі. Ды што казаць, гэта сапраўды грандыёзна — у Беларусь на тры тыдні вярнуўся канвалют, які ўключае адзінаццаць пражскіх выданняў кніг Біблії Францыска Скарыны. Унікальны старадрук захоўваецца ў фондах Верхнялужыцкай навуковай бібліятэкі (г. Гёрліц, Германія).

Падчас урачыстага адкрыцця выстаўкі міністр культуры Беларусі Павел Латушка падкрэсліў:

— Гэта важны міжнародны праект Беларусі і Германіі. Ён рыхтаваўся на працягу некалькіх гадоў, але яго варта было чакаць, як варта працаваць на тое, каб вярталіся на нашую зямлю гісторыка-культурныя каштоўнасці, якія калісьці страціў беларускі народ. Я перакананы, што праца ў гэтым кірунку павінна быць адной з галоўных місій усёй культуры нашай краіны. Спосабы вяртання могуць быць розныя: набыццё, арганізацыя выставак, стварэнне дэпазіту гісторыка-культурных каштоўнасцей, алічбоўка... Але менавіта гэты праект з'яўляецца прыкладам хоць і ўскоснага, але вяртання значнай каштоўнасці на Беларусь. І яно праходзіць у першую чаргу праз сэрцы беларусаў.

Адметна, што такое каштоўнае выданне з фондаў Верхнялужыцкай навуковай бібліятэкі доўгі час было невядомым, пра яго да 2003 года не ведалі нават самі супрацоўнікі бібліятэкі. Гісторыю навуковага адкрыцця канвалюта распавёў дырэктар гэтай установы спадар Маціяс Венцэль:

— У межах звычайнай рэгіёназнаўчай працы ў 2003 годзе, які ў Германіі быў аб'яўлены Годам Біблії, мы вырашылі падрыхтаваць невялікую выстаўку выданняў Біблії з фондаў нашай бібліятэкі. Адабраўшы некалькі кніг часоў Лютэра, лонданскую шматмоўную Біблію 1657 года і асобнік надрукаванай у Маскве Елізавецінскай Біблії, сталі больш уважліва вывучаць старыя рукапісныя каталогі, часткова складзеныя яшчэ ў XVIII ст. І натрапілі на такі запіс: "Біблія славіка, Прага, 1517 год". Мы палічылі гэтае выданне вартым уключэння ў нашую экспазіцыю і прадставілі яго на выстаўцы.

Па завяршэнні выстаўкі кніга, не прыцягваючы асаблівай увагі, вярнулася б на сваё месца на паліцы, калі б не пабачыў тэолаг з Гёрліца Петэр Лоберс, які некалькі год працаваў выкладчыкам у Санкт-Пецярбургу і ўмее чытаць царкоўнаславянску. Ён распавёў нам пра асаблівую каштоўнасць гэтага выдання, ён жа ўстанавіў кантакт з прафесарам Норбертам Рандавым, патрыярхам перакладу з беларускай мовы ў Германіі. Прафесар Рандаў неадкладна прыехаў у Гёрліц, вывучыў наш асобнік і нарэшце падрабязна патлумачыў, якое значэнне мае гэтая знаходка для гісторыі культуры. Цяпер мы ганарымся тым фактам, што змаглі дадаць да 39 вядомых канвалютаў выданняў Францыска Скарыны саракавы, выяўлены ў нашых фондах.

Пасля больш пільнага вывучэння асобніка нямецкім навукоўцам стала вядома, што ў 1527 годзе гэтая Біблія належала тэолагу і дзеячу Рэфармацыі ў Сілезіі Іагану Хесу, які быў абавязаны такім каштоўным падарункам нейкаму Андрэасу Бланку. Пра яго пакуль нічога не вядома. Няма і дакладнай інфармацыі пра далейшы лёс Біблії пасля смерці Хеса ў 1547 годзе. Згадка пра Біблію Скарыны з'яўляецца ў запісах калекцыянера каштоўных кніг Даніэля Штаўдэ ў 1615 годзе, калі ён дорыць сваю бібліятэку Гёрліцкай гімназіі. Верагодна, што менавіта па заказе Штаўдэ ўсе 11 друкаваных фрагментаў былі аб'яднаны пад адным пераплётам. Яшчэ праз 117 год з'явілася першая ў Германіі друкаваная нататка пра Біблію Францыска Скарыны. Наступны навуковы артыкул, прысвечаны гэтай каштоўнасці, быў апублікаваны толькі ў 2005 годзе.

На ўнікальны канвалют скіравалі сваю ўвагу і беларускія навукоўцы. Так, загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Галіна Кірэева зазначыла:

— Я вельмі засмуцілася, калі даведалася, што ў Германіі калекцыя выданняў Скарыны багацейшая, чым у нас: 11 кніг у адным пераплёце супраць нашых 10 у шасці пераплётах, пры гэтым шасці кніг Біблії ў нашай бібліятэцы няма. На жаль, няма ў нас партрэта Скарыны, а ў нямецкім канвалюце ёсць. Гэта, напрыклад, кніга "Быццё", а таксама Чатыры Кнігі Царстваў. Самае цікавае, што рэдка здараецца, у асобніку з Гёрліца ёсць агульны тытульны ліст да ўсёй Біблії. Гэты канвалют сапраўды ўнікальны, ён поўны і захаваўся ў ідэальным стане.

Дарэчы, канвалют ужо прайшоў алічбоўку, ён будзе прадстаўлены ў электроннай бібліятэцы НББ, а пазней стане часткай фондаў Нацыянальнай электроннай бібліятэкі. І тады кожны беларус зможа пазнаёміцца з каштоўным выданнем.

Пасля заканчэння работы выстаўкі ў Нацыянальнай бібліятэцы краіны скарынаўская Біблія будзе цягам тыдня экспанавацца ў Нясвіжскім палацава-паркавым комплексе.

Людміла СІЛЬНОВА

**Францыск Скарына: падарожжа на Радзіму**

*Скарына — там, Скарына — тут:*
*У СНД, Германіі...*
*Да нас прыехаў канвалют*
*У час Скарынаманіі.*

*Глянь, адзінаццаць рэдкіх кніг, —*
*Паўтысячагадовым*
*Узростам, зместам залатых, —*
*Адным абкладам-сховам*

*Атулены былі здаўна*
*Між сёстраў на паліцы*
*Бібліятэкі... Час — мана!*
*Прастора — памыліцца*

*Так лёгка!.. Як і ў мове іх:*
*І "Біблія", і "руска"...*
*На выдаўца радзіме іх*
*Прымаем — беларускай!*

*Пачаўся ў кніг вандроўны век,*
*Каб стаўся мудрым чалавек.*
*Аб'яўлены Скарына*
*Святло — усім! — пакіне.*

3.10.2012
Мінск

Нагода

# Чацвер у «Салоне»

**Вольга ПАЛОМЦАВА**

Яшчэ адной добрай прыкметай восені стаў пачатак новага сезона сустрэч людзей, якія не ўяўляюць свайго жыцця без кніг.

Навукоўцы, літаратары, мастакі, бібліятэкары і прадстаўнікі многіх іншых прафесій кожны апошні чацвер месяца збіраюцца ва ўтульнай мінскай кнігарні "Кніжны салон", каб абмеркаваць цікавыя пытанні, адкрыць для сябе нешта новае, бліжэй пазнаёміцца з тымі, хто мае непасрэднае дачыненнне да стварэння гэтага цуда.

Служэнне Кнізе не церпіць мітусні — для размоў пра яе невялічкая зала кнігарні падыходзіць найлепшым чынам. Гаспадыня кнігарні Ала Зміёва клапоціцца, каб кожная сустрэча была святам. Нагодай для добрага настрою гэтым разам быў выхад альбома-каталога "Exlibris у зборы Музея сучаснага выяўленчага мастацтва" і каталога работ Арлена Кашкурэвіча ў серыі "Беларускі Exlibris". (З выстаўкай цудоўных экслібрысаў можна азнаёміцца, наведаўшы кнігарню.) Арлен Міхайлавіч прысутнічаў на чарговым пасяджэнні Клуба бібліяфілаў.

У падтрымку чытання



**Акцёр Павел ХАРЛАНЧУК:**

# «Мае дзеці чытаюць па-беларуску»

Я выбіраю для сваіх дзяцей кнігі на беларускай мове, але неабавязкова беларускіх аўтараў. Галоўнае, каб кніга была напісана па-майстэрску. У кнізе павінен быць сэнс. Я заўжды звяртаю ўвагу на тое, чаму яна можа навучыць. Цяпер мае дзеці чытаюць "Казкі народаў свету", дзіцячую Біблію, "Чытанку" — зборнік, у які ўваходзяць творы Купалы, Вярбы, Коласа... Чуў, што існуюць беларускія пераклады Агніі Барто, але пакуль іх не бачыў. Увогуле, дзіцячай беларускамоўнай літаратуры катастрафічна мала. Так, ёсць нашы аўтары — Сяргей Кавалёў, напрыклад, але гэтага недастаткова. Трэба больш перакладной дзіцячай літаратуры.

Любімыя кнігі час ад часу перачытваю. Вельмі люблю "Пасмяротныя запіскі Піквікскага клуба" Дзікенса. Таксама — "Запіскі Самсона Самасуя" Андрэя Мрыя.

Што найбольш уразіла за апошнія гадоў пяць, дык гэта раман Юрыя Алешы "Зависть". Перачытваю яго бясконца, і ўсё з той жа асалодай. Паглыбленне ў тую эпоху — 20-я гады ХХ стагоддзя, пачатак Савецкага Саюза, сутыкненне дзвюх эпох, калі адзін свет знікае і прыходзіць іншы, і тое, што адбываецца з людзьмі, — усё гэта так смачна апісана, што нават не такім значным здаецца сюжэт. Мне спадабалася атмасфера.

Але часцей я ўсё ж звяртаюся да выданняў, звязаных з маёй прафесіяй. Люблю чытаць кнігі рэжысёраў, напрыклад, Льва Додзіна. Так што на мастацкую літаратуру застаецца не так шмат часу.

**Наста ГРЫШЧУК,**
**фота Віктара Зайкоўскага**

# Кірмашы: крыху пра гісторыю

**Святлана РУСАКОВІЧ**

Кніга да таго, як стаць здабыткам кожнай сям'і, праходзіць доўгі шлях ад напісання, рэдагавання, выдання да продажу. Вялікі стаж мае і адзін з метадаў яе распаўсюджання — кірмаш.

Паводле ўспамінаў мемуарыстаў, вельмі цікавыя кніжныя кірмашы адбываліся на Цвярскім бульвары ў Маскве з 1920-х да пачатку 1930-х гадоў. Напярэдадні ўсюды развешвалі афішы, на доўгай бульварнай алеі — агітацыйныя плакаты, усталёўвалі прылаўкі, кіёскі, павільёны, некаторыя з якіх мелі досыць крэатыўнае афармленне. Так, кіёск з музычнай літаратурай меў выгляд раяля, павільён выдавецтва "Транспорт" быў "паравозам", дзіцячыя кніжкі прадавалі праз хобат спецыяльна сканструяванага слана. Усё гэта вабіла пакупнікоў, уздымала настрой. Сюды прыходзілі пісьменнікі, прысвячалі святу вершы, прапаноўвалі свае творы, падпісвалі іх.

Пасля вайны кірмашы былі ўзноўленыя, але перамясціліся ў іншыя месцы. Незабыўны кірмаш арганізоўваўся на полі сяла Міхайлаўскае ў дзень нараджэння паэта, дзе па пушкініяну і лепшыя творы іншых аўтараў выстройваліся вялізныя чэргі.

Святы кнігі праходзілі і ў Беларусі. У мяне захоўваюцца аўтографы на кніжках з Дня друку, што святкавалі на факультэце журналістыкі БДУ, Сяргея Грахоўскага — з гарадскога Дня паэзіі ў Мінску…

Упершыню я трапіла на кніжны кірмаш у Слуцку ў другой палове 1960-х гадоў. На вуліцы за сціплымі прылаўкамі гандлявалі працаўнікі кніжных крам. Галоўным багаццем тут была літаратура ўсесаюзных выдавецтваў. Больш разнастайны кірмаш сустрэў мяне ў гэтым горадзе ў першай палове 1970-х гадоў: мемуары знакамітых асоб у прыгожым афармленні, альбомы па мастацтве, літаратурныя творы, каляровыя дзіцячыя кніжкі. Я набыла падарункавае выданне "Сказка о Левше" М. Ляскова, у футарале з яркімі малюнкамі, стужкай-закладкай, у каленкоравай вокладцы, якую ўпрыгожыў медальён з барэльефам Ляўшы. Гэта была адна з самых каштоўных кніг кірмашу, за якую я заплаціла ўсяго пяць савецкіх рублёў. Падобныя кірмашы ў малых гарадах адбываліся і ў фармаце раённага свята кнігі, былі вельмі чаканымі, бо мець уласную бібліятэку марыла амаль кожная сям'я, і лепшыя творы ў кніжных крамах сталі дэфіцытам.

Тым часам выдавецкая дзейнасць у БССР развівалася, адчыняліся новыя рэдакцыі ці ўстановы. Пашыралася тэматыка літаратуры, паляпшалася афармленне, выходзілі нават мініяцюрныя кніжкі. Выдаўцы атрымалі магчымасць удзелу ў арганізаваных Масквою міжнародных кніжных кірмашах. Некаторыя кіраўнікі лічылі, што пабываць на такім мерапрыемстве павінны не толькі тыя, хто непасрэдна прадстаўляе на ім беларускую кнігу, але і іншыя прафесіяналы. Знаходзіліся сродкі, і ў верасні ў Маскву накіроўвалася дэлегацыя выдаўцоў з Мінска. Выстаўка праходзіла ў павільёнах ВДНГ СССР, у ёй удзельнічалі саюзныя рэспублікі і замежныя краіны. Беларусь дэманстравала лепшыя творы літаратуры, кнігі пра родны край, па кулінарыі, хатняй і сельскай гаспадарцы і іншыя. У экспазіцыях гаспадарылі дзелавітасць, дысцыплінаванасць, узаемная павага паміж супрацоўнікамі і наведвальнікамі. З заміраннем сэрца я глядзела на кнігі розных выдавецтваў. Высокая культура тэкстаў і выданняў, эстэтычнасць, змястоўнасць, вялікія тыражы, нізкі кошт, даступнасць чытачу і пакупніку — гэтым немагчыма было не ганарыцца. З 1987 года сталі прыкметнымі нечаканыя змены. Так, на паліцах экспазіцыі ЗША ляжалі буклеты на рускай мове з Канстытуцыяй гэтай краіны, у ізраільскай экспазіцыі працаваў экран, на якім дэманстраваліся краявіды Ізраіля.

Таму ці іншаму выдавецтву БССР не заўсёды шанцавала прадаць на кірмашы свае выданні, але дастойна прадставіць іх і атрымаць узнагароды ўдавалася заўжды. У Мінск прывозілі адтуль творы замежных аўтараў, якія адразу перакладаліся і выдаваліся. Я рэдагавала некаторыя з іх.

Маскоўскія міжнародныя кірмашы працягваюцца. Гэта добра, як і тое, што ў іх удзельнічае Беларусь. А нашы чытачы атрымалі магчымасць наведваць Мінскі Міжнародны кніжны кірмаш, які штогод адбываецца ў лютым. Тут дэманструецца нямала добрых выданняў з розных краін. Мастацтва кнігі расце — гэта відавочна.

Наогул, кірмашы — справа добрая. Былі б таленавітыя аўтары і ўдалыя творы.

## Анкета «ЛіМа»

# Прафесія і прызванне

**1. Ваша асноўная спецыяльнасць і яе сумяшчэнне з творчасцю?**
**2. Перашкаджае ці дапамагае работа творчасці?**
**3. Што першаснае ў агульнажыццёвым?**
**4. Як распараджаецеся ганарарамі?**
**5. Якую б прафесію выбралі, каб не жыццёвыя абставіны?**
**6. Стаўленне сваякоў, сяброў, знаёмых да работы і да творчасці?**
**7. Дзе больш паспяхова рэалізуецеся?**



**Юрась НЕРАТОК, член СПБ і Саюза расійскіх пісьменнікаў:**

Буду адказваць па пытаннях, па рэестры, бо інжынер.

*__1.__ Галоўны канструктар. Усё жыццё (амаль трыццаць гадоў) — канструктар: роўненька прыступкі прайшоў, хоць і не заўсёды эвалюцыйна, бо час рэвалюцыйным быў (90-я гады). Само сабой, у няўстойлівыя часы даводзілася займацца рознымі работамі, аднак з асноўнай не звальняўся.*

*__2.__ З творчасцю спецыяльнасць сумяшчаецца выдатна: у пісьменніцкім рамястве выкарыстоўваю лагічны падыход, у прафесійным — азарэнне.*

*Творчасць і работу аддзяляю — не пішу на рабоце і не праектую дома.*

*__3.__ Першаснае — само жыццё ў ягонай хуткацечнасці, астатняе — напрамкі. Іх значна больш, чым творчасць і работа.*

*__4.__ Ганарары разыходзяцца на літаратуру, бо дзесяць працэнтаў ад здабыткаў ніхто не адмяняў: падпіска, кнігі. Не хапае — дабаўляю. Расход на ўдзел у літаратурных мерапрыемствах за расход не лічу, бо ўсё жыццё — заробак і трата. Хаця самому даводзілася па паўгода без грошай пры поўным рабочым дні быць.*

*__5.__ Інжынерам і пісьменнікам рабіўся адначасова: бацька, выкладчык рускай мовы і літаратуры, у школе прапанаваў класу пісаць вершы замест сачынення, на што школьнік з каравым почыркам не спакусіцца не мог. А дома бацька даваў адрамантаваць электрабрытву, якую не ўзяліся рамантаваць службісты КБА. Калі падумаць, пэўна, так і было б пры гэтых жа задатках і ўмовах сталення: заўжды ведаў, што проста інжынерам не буду.*

*__6.__ Напачатку да творчасці нармальныя людзі ставяцца звыкла: дзе друкаваўся, дзе кніжкі, дзе пасведчанні СП? Калі кладзецца на стол незлічоная колькасць публікацый, плюма асабістых кніжак і калектыўных зборнікаў, пасведчанне пісьменніцкага саюза, — пачынаюць цікавіцца творамі, нараджэнне якіх адбывалася на вачах. І самі становяцца творчымі людзьмі або пагібляюць уласнае развіццё.*

*__7.__ Цяжка сказаць, дзе рэалізацыя праходзіць прасцей. На рабоце можна "гнаць вал", аднак асцярожныя рэлізы камандзіраў, у якіх свая планка, прыпыняюць. У рэалізацыі творчасці існуе пэўная "прахадзімасць" або залежнасць ад рэдактараў… І да таго ж — пішам шмат, а чытач пакуль блукае. Даю прапорцыю ў ілюстрацыйным варыянце. Хоць калегі з абодвух бакоў здзіўляюцца: калі паспеў?*

## На паліцы

# Дарога ў неба

**Сяргей ГРАНІК**




**Не так даўно ў выдавецтве "Пачатковая школа" выйшла дакументальная кніга пра ўраджэнца Драгічынскага раёна, палкоўніка запасу Мікалая Мачанскага "Мікалай Мачанскі: «Узлёт дазваляю»". Аўтар выдання — вядомы ў Беларусі журналіст Наталля Салук. У сваёй кнізе яна распавядае пра жыццёвы шлях былога ваеннага лётчыка, а цяпер начальніка рэспубліканскага авіяклуба ДТСААФ. Расповед атрымаўся на дзіва цікавым, яго дапаўняюць шматлікія фотаздымкі і дакументы.**

Кніга адметная яшчэ і тым, што паралельна з біяграфіяй Мікалая Мачанскага аўтарка звяртае ўвагу на гісторыю айчыннай авіяцыі і людзей, якія разам з Мікалаем Пятровічам верна служылі сваёй краіне.

Мікалая Пятровіча добра ведаюць на Драгічыншчыне. На беразе Днепра-Бугскага канала, у вёсцы Белянок, — яго малая Радзіма. Тут і нарадзілася мара пра неба. Прайшлі гады, і вясковы хлопец стаў не проста лётчыкам, а сапраўдным асам.

Пасля заканчэння ў 1972 г. Белінскай сярэдняй школы Мікалай Мачанскі паступае ў Калінінградскае вышэйшае авіяцыйна-тэхнічнае вучылішча. Вучоба праляцела хутка. У 1975 г. маладога лейтэнанта накіроўваюць у авіяцыйны полк Паўднёвай групы войск (Венгрыя). Там прайшло яго станаўленне як афіцэра. Пасля была служба ў Чырванасцяжнай беларускай ваеннай акрузе. Расло майстэрства Мікалая Пятровіча, добрыя адносіны складваліся з падначаленымі. Але маёр Мачанскі вырашае стаць пілотам. У 1984 г. здае экстэрнам іспыты за курс у Сызранскім вышэйшым ваенным авіяцыйным вучылішчы лётчыкаў і атрымлівае дыплом афіцэра-верталётчыка. У гэтым жа годзе паступае завочна ў Ваенна-палітычную акадэмію імя У. Леніна. Слухача акадэміі маёра Мачанскага адразу прызначаюць намеснікам камандзіра эскадрыллі па палітычнай частцы. Спраўдзілася мара Мікалая пра неба — ён становіцца высакакласным пілотам верталёта.

Хутка з роднай акругай давялося развітацца. Маёра Мачанскага накіроўваюць для праходжання службы ў ГДР. Там яму давялося асвойваць новую тэхніку — верталёт Мі-24. З гэтай задачай ён справіўся на выдатна. У хуткім часе ўжо падпалкоўнік пайшоў на вышэйшую пасаду — узначаліў палітаддзел 485-га асобнага верталётнага палка ў гарнізоне Брандзіс каля Лейпцыга.

Неўзабаве прыйшоў загад вывесці полк у Расію. Знікла дзяржава Савецкі Саюз — ішло масавае скарачэнне арміі. Мікалаю Пятровічу прапаноўвалі высокую пасаду ў расійскай ваеннай авіяцыі, але ён напісаў рапарт на звальненне і вярнуўся ў Беларусь. Поўны энергіі 39-гадовы пенсіянер не мог сядзець без справы. Рукі сумавалі па штурвале, а душа цягнулася ў неба.

У 1997 г. Мікалай Мачанскі ўзначаліў рэспубліканскі аэраклуб ДТСААФ, які знаходзіўся ў пасёлку Баравая пад Мінскам. Разам з падначаленымі давялося з нуля ствараць інфраструктуру і матэрыяльную базу аэраклуба. Вынік карпатлівай працы — высокія дасягненні на міжнародных спаборніцтвах па авіяцыйных відах спорту і шматлікія рэкорды. Закаханы ў неба палкоўнік запасу Мачанскі стварае адзіны на абшарах СНД музей авіяцыйнай тэхнікі.

Вось ужо 15 гадоў Мікалай Пятровіч кіруе рэспубліканскім аэраклубам, удасканальвае лётнае майстэрства і вучыць маладых пілотаў. "Быць прыкладам і ісці наперадзе ўсіх" — гэтага правіла ён прытрымліваецца ўсё жыццё. Сваю малую радзіму Мікалай Пятровіч не забывае. Пры яго садзеянні Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь перадало Ваенна-гістарычнаму музею імя Удовікава, які знаходзіцца ў Драгічыне, супрацьтанкавую гармату Д-44 часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Два гады таму за высокія дасягненні, патрыятычнае выхаванне моладзі і асабісты ўнёсак у развіццё авіяспорту Мікалай Мачанскі быў узнагароджаны Ордэнам Пашаны. Ён з'яўляецца першым выхадцам з Драгічынскага раёна, які атрымаў такую ўзнагароду.

# Напеў мілагучны

Падчас юбілейнага X абласнога фестывалю народнай творчасці "Напеў зямлі маёй" у Мар'іну Горку з'ехалася 28 калектываў з усіх куткоў Міншчыны. Лепшыя з лепшых — таленавітыя танцоры, музыкі, спевакі і фальклорныя калектывы — павінны былі яшчэ раз пацвердзіць званні "народны" і "ўзорны".

Дар'я ШОЦІК,
фота аўтара

Узначальваў строгае журы кампазітар, народны артыст СССР, старшыня Беларускага саюза кампазітараў, прафесар Ігар Лучанок. Дарэчы, менавіта маэстра, ураджэнец Мар'інай Горкі, выступіў у 2001 годзе ініцыятарам правядзення гэтага — самага значнага для Мінскай вобласці — фестывалю.

— Сёння, падчас свята, прагучала шмат народных песень беларускіх кампазітараў, і гэта выдатна! — адзначыў Ігар Міхайлавіч. — "Напеў зямлі маёй" — вельмі важны фестываль, ён дае магчымасць згадаць сваю спадчыну, родны кут.

Было бачна: цікавасць да фэсту вялікая, як у моладзі, так і ў старэйшага пакалення. Пацвердзіць свой талент і прафесіяналізм прыехалі калектывы, якія неаднаразова ўдзельнічалі ў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, але былі і тыя, што не так даўно выступаюць на канцэртных пляцоўках Беларусі.

— Гэта адзін з самых цікавых фестываляў у Беларусі, — зазначыў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі. — Дарэчы, практычна ўсе жанры былі прадстаўлены паўнацэнна. Прыемна, што з кожным годам з'яўляецца ўсё больш і больш выдатных творчых калектываў. Безумоўна, Міншчына ў гэтым кірунку — лідар. Узровень, які сёння маюць народныя калектывы, — дастаткова высокі і адпавядае тэндэнцыям, якія фарміраваліся на працягу многіх гадоў.

Конкурсная праграма "І зорка творчасці зазззяе" была самай звонкай і мілагучнай часткай фестывалю. Адкрыў фэст народны цымбальны аркестр "Ліра" Мінскага гарадскога дзяржаўнага каледжа мастацтваў пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Стэльмаха. А пасля парадавалі прысутных народны вакальна-інструментальны ансамбль "Нясвіж", узорны харэаграфічны ансамбль "Дарунак" Барысаўскай дзіцячай школы мастацтваў, узорны ансамбль народнай песні "Смолачкі" Смалявіцкай дзіцячай школы мастацтваў і народны фальклорны ансамбль "Крынічанька" Раеўшчынскага дома фальклору з Маладзечанскага раёна. Захаванне традыцый вельмі яскрава было бачна ў выступленні ўдзельнікаў аўтэнтычнага фальклорнага калектыву "Глыбоцкія крыніцы" з Любанскага раёна.

Самы інтрыгуючы момант — падвядзенне вынікаў. Гран-прыфестывалю-конкурсу "Напеў зямлі маёй" — мікрааўтобус "Газель" — дастаўся ўзорнаму ансамблю народнай песні "Дзянніца" Клецкай ДШМ пад кіраўніцтвам Вольгі Нупрэйчык. Сярод тых, хто ўдастоены Дыплома II ступені, — народны фальклорны ансамбль "Ячаўскія вячоркі" Казловіцкага сельскага дома культуры Слуцкага раёна (кіраўнік Людміла Калядка), узорны ансамбль народнай песні "Смолачкі" Смалявіцкай ДШМ (кіраўнік Алена Дзедавец). Дыплом II ступені атрымалі некалькі калектываў. Гэта народны ансамбль "Натхненне" выкладчыкаў Салігорскай музычнай дзіцячай школы (кіраўнік Святлана Хоміч), сямейны гульнёва-абрадавы гурт "Радзіна" Новінскага СДК (кіраўнік Ніна Клімовіч) Бярэзінскага раёна і інш. Усім калектывам, якія былі адзначаны журы, уручаны каштоўныя падарункі.

Начальнік упраўлення культуры Мінаблвыканкама Анатоль Акушэвіч упэўнены, што цудоўныя калектывы Міншчыны ў чарговы раз сказалі сваё слова ў мастацтве, народна-традыцыйнай культуры Беларусі.

Вырабы з бісеру, саломкі, гліны і дрэва, тканыя ручнікі, мяккія цацкі і іншыя адметныя рэчы вабілі вока ўдзельнікаў фэсту на выстаўцы майстроў народнай творчасці "Рамесніцкі гасцінец", якая разгарнулася каля раённага Дома культуры.




*Народны фальклорны ансамбль "Ячаўскія вячоркі" Казловіцкага СДК.*

# А сюжэт? Прыдумаем!



Вызначэнне "чарговая прэм'ера" для гэтага спектакля — не надта ўдалае. Мяркуйце самі: упершыню ў рэпертуары беларускай балетнай трупы з'явіўся твор легендарнага харэографа Дж. Баланчына! Яго аднаактовы спектакль "Серэнада" з музыкай аднайменнага твора П. Чайкоўскага паставіла на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі французскі харэограф Нанет Глушак, якая з'яўляецца адным з афіцыйных прадстаўнікоў Фонду Джорджа Баланчына і ажыццяўляе кантроль за якасцю ўвасаблення творчай спадчыны майстра на сцэнах свету. Дарэчы, ёй, ураджэнцы ЗША з расійскімі каранямі, пашчасціла наведваць урокі майстра ў нью-ёркскай школе, а з 1968 года працаваць у яго "New York City Ballet". Затым яна танцавала Амерыканскім тэатры балета... Цягам апошніх 18 гадоў была мастацкім кіраўніком балета Тэатра Капітолія ў французскай Тулузе.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Міхаіла Несцерава

"Серэнаду" называюць эмблемай творчасці славутага харэографа, ураджэнца Пецярбурга, стваральніка амерыканскага балета, аўтара шэдэўраў для "Рускіх сезонаў" С. Дзягілева, — Дж. Баланчына, чыё сапраўднае імя, як вядома, — Георгій Баланчывадзе. Нездарма менавіта гэты спектакль (пастаноўка Б. Кука і М. Калегары, мастак па касцюмах — М. Бурбенк) два гады таму адкрываў праграму Тбіліскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі падчас першага творчага візіту ў Мінск славутага калектыву Грузіі. Цяпер і нашы артысты спрычыніліся да "неакласікі", за тры тыдні да прэм'еры мусілі асвойваць незвыклы для іх і тэхнічна складаны стыль танца пачатку XX стагоддзя, які, безумоўна, вымагае далейшага, паглыбленага спасціжэння і больш дасканалага псіхалагічна-вобразнага ўвасаблення.

Упершыню пастаўленая ў 1934 годзе, "Серэнада" лічыцца бессюжэтным спектаклем, які з'явіўся мастацкім вынікам урокаў сцэнічнага майстэрства ў Школе амерыканскага балета, створанай Баланчыным. Удзельнікі прэс-канферэнцыі, зладкаванай напярэдадні прэм'еры ў НАВТ оперы і балета Беларусі, спасылаліся на ўспаміны самога харэографа, які пісаў: "Многія мяркуюць, быццам бы гэты балет мае патаемны сюжэт. Гэта не так. У ім танцоўшчыкі проста рухаюцца пад прыўкрасную музыку. Адзіны сюжэт балета — музыка серэнады, калі хочаце — гэта танец пры месяцы". Прэм'ерныя паказы адбыліся ў мінулыя выхадныя. Арганічнай "парай" для 35-хвіліннага спектакля стаў таксама рэканструяваны аднаактовы балет "Шахеразада" на музыку М. Рымскага-Корсакава ў харэаграфіі М. Фокіна, увасоблены ў нашым тэатры год таму ў межах праекта А. Ліепы "Рускія сезоны XXI стагоддзя".

Чатыры часткі класічнай "Серэнады для струннага аркестра" П. Чайкоўскага, на думку Дж. Баланчына, вымагаюць паказу на сцэне пэўных эмоцый і сітуацый — вось таму і ствараецца ўражанне, нібыта балет мае сваю сюжэтную аснову: "Вонкава чысты танец утварае пэўнага кшталту апавяданне. І кожны глядач мае права ўбачыць і распазнаць у ім сваю музыку і свой танец"... Слушная пазіцыя, якая не абмяжоўвае ўяўлення публікі! З відовішча, афармленага ў духу мінімалізму, закладзенага Баланчыным, высноўваецца спрадвечны "падтэкст" усялякага рамантычнага танца: узнёслыя фантазіі, мроі кахання, радасць жыцця; эфемернае адчуванне вечнай гармоніі; душэўныя спакусы і мітрэнгі; суперніцтва; крах пераменлівых пачуццяў; недасяжнасць мары, аслепленасць і слепата заложнікаў па сутнасці трагічнага ілюзорнага шчасця... Нездарма Баланчын парушыў сімфанічную драматургію Чайкоўскага, памяняўшы месцамі жыццярадасны жанравы, заснаваны на рускім песенным фальклоры "Фінал" твора і спавядальна-пачуццёвую "Элегію", якая, нягледзячы на панаванне мажору, дала магчымасць харэографу пазбегнуць банальнай "шчаслівай развязкі" ў стасунках умоўных лірычных герояў.

З развагі дырыжора-пастаноўшчыка Вячаслава Воліча і салістаў Вольгі Гайко, Людмілы Кудраўцавай, Ігара Артамонава, Дзяніса Клімука вынікае: спектакль дазваляе суаднесці музыку "Серэнады..." П.Чайкоўскага з вышынямі яго сімфанічнай творчасці і напоўніць дзеянне складаным эмацыянальна-вобразным зместам, блізкім светаадчуванню нашага сучасніка.

# Такі ён — Ханс Крысціян, лепшы казачнік сярод хрысціян

На пачатку новага сезона Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі паказаў новы спектакль для дзяцей — "Стойкі алавяны салдацік" паводле казак Х. К. Андэрсена.


*Цімафей Ткачоў у ролі Салдаціка.*

**Ягор КОНЕЎ**

Няма вялікага сакрэту ў тым, што сучасныя падлеткі не зачытваюцца творамі Андэрсена, які, дарэчы, акрамя казак апублікаваў яшчэ дзевяць тамоў раманаў, п'ес, навел і вершаў. Аднак для сусветнай культуры яго імя знакавае. (Не ў апошнюю чаргу дзякуючы галівудскім мультэкранізацыям). І ў тым, што айчынны тэатр знаёміць юнага сучасніка з творамі знакамітага датчаніна, ды яшчэ на беларускай мове, выяўляецца не толькі асветніцкая, але і патрыятычная адметнасць гэтага спектакля.

Яго пастаноўшчыкам і аўтарам сцэнічнай адаптацыі выступіла Святлана Навуменка — паводле майго глыбокага перакanання, адна з лепшых сучасных рэжысёраў Беларусі. Яе інсцэніроўка знітоўвае сюжэты розных казак Андэрсена, прычым удала трансфармуе іх для дзіцячага ўспрымання. Аднак пры ўсёй вольнасці інтэрпрэтацыі Святлана Навуменка захавала сутнаснае з творчасці славутага Ханса Крысціяна: спалучэнне яго паэтычнай рамантыкі ды балючага рэалізму, гумарыстычнай фантазіі ды з'едлівай іроніі. У гэтым дынамічным дзеянні на фоне маляўнічых дэкарацый (мастак-пастаноўшчык Юрый Саламонаў) дыялогі персанажаў чаргуюцца з музычнымі нумарамі, а іранічныя эпізоды з хвалюючымі, калі слёзы міжволі на вачах заблішчаць.

Кожны персанаж спектакля мае адметны характар. Галоўны герой — Салдацік (у розных складах яго іграюць Цімафей Ткачоў ды Ілья Ясінскі) — куды б ні патрапіў, хоць у дзіцячы пакой, хоць у сад, паўсюль непахісна ўвасабляе маральны імператыў: абыходзіцца з кожным адпаведна яго ным учынкам. Прыгожа, парадна апрануты, выдатна валодае шыхтавымі практыкаваннямі. Менавіта такіх герояў употай кахаюць дзяўчаты малодшага школьнага ўзросту. Не дзіва, што Цудоўная Балерына (у гэтай ролі — студэнткі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў А. Прохарава і Г. Янулевіч), памаўчаўшы два акты, без ваганняў сягае за ім у полымя. Праўда, ёй і не спатрэбіліся словы, каб Салдацік закахаўся без памяці ў чароўную танцоўшчыцу. Больш чым красамоўнымі аказаліся яе балетныя па (кансультант спектакля па балеце — Н. Дараховіч).

Лялька (актрысы Наталля Халадовіч і Марыя Пятровіч) увасабляе анекдатычных бландзінак, якія, што называецца, заўсёды ў шакаладзе. У яе галава будзе адвальвацца, але яна ўсё адно наладзіць шыкоўны баль.

Свінка-скарбонка (Ганна Маслоўская і невымерна абаяльная Бэла Шніпер) — яскравы сімвал баязлівага збіральніцтва. Як і многія, мяркуе, што толькі грошы прыносяць шчасце. Трэба было абтрэсці яе, як грушу, каб паразумнела. Смялейшай, праўда, усё адно не стала.

Завадны Салавей (артысты Дзяніс Паршын і Дзмітрый Цеслаўскі) з асалодай парадзіруе поп-спевакоў расійскага "тэлеразліву" — і яскравым гарнітурам, і галашэннем, якое песняю завецца. А паколькі Салавей выраблены ў Кітаі, то і веер у яго папсаваны, нібы шырспажыў "made in China", набыты на "полі цудаў" у Ждановічах.

Адмоўныя персанажы камічныя сваім крыўляннем (пластыку ставіў Ігар Сігоў) і страшныя сваімі бессардэчнымі ўчынкамі. Злы Чорцік з табакеркі (Сяргей Шымко, Дзмітрый Давідовіч, Дзяніс Варанцоў) апанаваны прагай улады і ў літаральным сэнсе спапяляе пяшчотнае каханне. Пацук (Максім Брагінец і Мікалай Стонька) заганяе за краты Салаўя (не механічнага, жывога). Саўдзельнікам яго злачынстваў ледзь не зрабіўся філасафічна настроены Даверлівы Крот (Андрэй Дабравольскі ды Віктар Багушэвіч), які эмпірычным чынам высвятляў адрозненне птушкі ад каровы і шкадаваў, што ружы не растуць пялёсткамі ў зямлю.

Дарэчы, на перамозе каварства над дабрынёю класік дацкай літаратуры і скончыў бы свой расповед. Большасць казак Андэрсена завяршаецца на маркотнай ноце. Аднак аўтарская філасофія, укладзеная ў вусны казачніка Оле-Лукое, сцвярджае: сапраўдная вера ў дабрыню мае шанц на перамогу нават у самых неспрыяльных варунках. І таму Салдацік ды Балерына, бы птушка Фенікс, адраджаюцца з агню — і метафарычна, у выглядзе лялек, і ў рэальным абліччы.

Мне расказвалі, што ў Капенгагене, дзе творы Андэрсена нярэдка набываюць сцэнічнае ўвасабленне, у заўзятых тэатралаў ёсць адмысловы звычай: кіраваць да помніка Ханса Крысціяна і ў выпадку паспяховай прэм'еры разбіваць аб яго галаву бутэльку шампанскага. (Тое ж самае робяць школьнікі і студэнты ў ноч выпускнога балю, каб, маўляў, ім шанцавала ў будучыні.) Вядома, да помнікаў можна ставіцца і больш далікатна. Аднак, калі артысты "Стойкага алавянага салдаціка" выходзілі на фінальны паклон, я міжволі пашкадаваў, што не бачу паблізу помніка Андэрсену і не маю бутэлькі шампанскага пад рукой. Бо тады б адзначыў удалую прэм'еру РТБД на дацкі ўзор!

# У госці да Штраўса



Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь прадставіў канцэртную праграму "Штраўс запрашае".

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

Кампазітар, якога называлі "каралём вальсаў", музыкант, які здолеў як ніхто іншы перадаць у сваёй творчасці радасць жыцця, — усё гэта Іаган Штраўс-сын. Папулярнасць яго мелодый з лёгкасцю перадольвае межы розных эпох і стыляў, захоўваючы вечную маладосць і прыгажосць.

Стваральнікі канцэртнай праграмы "Штраўс запрашае" сабралі ў ёй самыя яркія музычныя нумары з сапраўды невычэрпнай спадчыны кампазітара. Гэта і шырокавядомыя ўверцюры да аперэт "Лятучая мыш" і "Цыганскі барон", і знакамітыя вальсы "Казкі венскага лесу", "На цудоўным блакітным Дунаі", "Жыццё артыста", і разнастайныя маршы, полькі, кадрылі…

Аднак характво гэтай праграмы не толькі ў музыцы Штраўса, лічыць дырыжор Мікалай Калядка: "Мы імкнёмся зрабіць з кожнага, нават самага непрацяглага, музычнага нумара невялічкую тэатральную імпрэзу са сваёй драматургіяй. Гэта ўносіць своеасаблівы элемент гульні ва ўзаемаадносіны аркестра і глядзельнай залы. Дзякуючы такому кантакту атмасфера канцэрта становіцца больш інтымнай і цёплай, з'яўляецца тонкая эмацыянальная сувязь паміж слухачамі і артыстамі".

Жамчужыны штраўсаўскага рэпертуару прагучаць у Вялікім тэатры Беларусі ў выкананні салістак оперы — лаўрэата міжнародных конкурсаў Алены Шведавай, лаўрэата нацыянальнага конкурсу Алены Сіняўскай і артыстаў сімфанічнага аркестра. Дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікалай Калядка, рэжысёр — Вольга Бураўлёва.

## Надзённае

# Рамонт як стыхійная навала

"Парупіцца пра білеты лепей летам. Бо на першым спектаклі новага сезона чакаецца аншлаг" — хваляваліся прыхільнікі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Ды неўзабаве з'явілася зусім іншая падстава для хвалявання, якая "ўзняла нервы" і артыстам, і публіцы, і кіраўніцтву творчага калектыву.

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

Урачыстае адкрыццё 43-га сезона Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра абвясцілі на пачатак верасня. Сваёй рэпертуарнай візіткі калектыў пакуль не мае, таму гонару распачаць сезон спадобілася сёлетняя прэм'ера — беларуска-амерыканская пастаноўка мюзікла Л. Бернстайна "Вестсайдская гісторыя". Надышла восень, і вакол папулярнага сталічнага тэатра ўтварыўся незразумелы інфармацыйны вакуум. Быццам той бясследна знік. Паўсюль ішла рэклама нацыянальнай опернай прэм'еры, міжнародных выставачных праектаў, філарманічных і тэатральных фестываляў. А гучны пачатак сезона ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры адкладваўся на няпэўны тэрмін... з-за рамонту. Дакладней, з-за нядбайнасці (або некампетэнтнасці, або нядобрасумленнасці — якая нам, гледачам, ці ім, "служкам Мельпамены", розніца?) тых, хто не выканаў адпаведную працу ў будынку. Артысты выступалі на ўрачыстасцях, прысвечаных юбілею ўнікальнага помніка старажытнага дойлідства — Сынкавіцкай царквы; ладзілі гастролі ў Літве...

І вось нарэшце з'явілася абвестка, што з 5 кастрычніка тэатр пачынае рэгулярны паказ спектакляў у Мінску.

Аднак віншаваць яго з перамогай над наступствамі "стыхійнага бедства", да якога нашы грамадзяне прыраўноўваюць нават звычайны рамонт у гарадской кватэры, — рана! Спектаклі будуць ісці на сцэне Мінскага палаца культуры чыгуначнікаў.

Якія б каментарыі ні напрошваліся з гэтай нагоды, лепей ад іх устрымацца. Галоўнае, што публіка не пакіне сваіх куміраў без увагі. І дачакаецца здзяйснення тых творчых планаў на бліжэйшы год, якімі кіраўніцтва тэатра падзялілася з журналістамі яшчэ ў ліпені: опера Р. Леанкавалы "Паяцы" (канцэртнае выкананне); балет У. Саўчыка "Пад ветразямі мары (Асоль)"; мюзікл Г. Гладкова "Звычайны цуд"; аперэта І. Кальмана "Містэр Ікс"; мюзікл У. Баскіна "Сірано дэ Бержарак". Няма сумніву, што працягнецца праца над новым творам У. Кандрусевіча з вершамі А. Туравай "Соня, Сонейка, Сафія", у аснове якога гісторыя Соф'і Гальшанскай і Ягайлы...

Тэатр запрашае паглядзець музычную камедыю Я. Пціцкіна "Бабскі бунт". І ўжо заклікае набываць білеты на навагоднія імпрэзы для дзяцей!

Міхал БАРАНОЎСКІ:

# «Песня нараджаецца ў момант, калі ёю дзелішся»

Гурт "Нельга забыць" — унікальная з'ява ў беларускай музычнай культуры. Ён быў створаны напрыканцы 2009 года адмыслова пад праграму "Леаніды не вернуцца да зямлі…" паводле рамана Уладзіміра Караткевіча "Нельга забыць". Падчас выступлення "НЗ" з залы не даносіцца ні гуку. І не толькі таму, што лідар гурта Міхал Бараноўскі просіць прытрымаць апладысменты да заканчэння праграмы. Справа хутчэй у шалёнай энергетыцы, магутным эмацыянальным уздзеянні, якія адчувае кожны прысутны. Але на гэтым музыкі не спыніліся. Сёння яны выступаюць з новай праграмай "Месца моцы". Пра яе ды іншае мы пагутарылі з Міхалам Бараноўскім.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

**— Калі пісаліся першыя песні на вершы з рамана "Нельга забыць", вы яшчэ не думалі стварыць гурт. Чаму не сталі выступаць сольна?**

— Патрэбна было больш фарбаў. І не такі ўжо ў мяне класны ўзровень гітары, каб я мог адзін перадаць усе эмоцыі, якімі б хацелася напоўніць музыку.

**— А ці была крытыка?**

— Так, была. У асноўным крытыкуюць за адсутнасць мелодыкі ў песнях, за надта простую музычную форму. Гэта відавочны факт. Але і задачы такой не ставілася. Задача была — менавіта каб прабрала. І мэсэдж данесці. Здаецца, атрымалася. Але гэта мая першая спроба зрабіць цэльнае палатно, і патрабаваць ад яго звышдасканаласці даволі цяжка. Дакладна магу сказаць: тое, што мы рабілі, для мяне — скок вышэй за галаву.

Другая прэтэнзія, якую давялося выслухаць, — што ўсё было занадта надрыўна і Караткевіч так не хацеў сказаць. Як хацеў сказаць Караткевіч, ніхто ўжо не даведаецца. Сам раман — звышэмацыянальны, звышнадрыўны. Галоўнага героя кідае то ў жар, то ў холад, ён робіць неадэкватныя рэчы, задумваецца пра самагубства… Вось гэтыя апакаліптычна-фаталістычныя думкі мы спрабавалі перадаць музыкай, таму яна такая экспрэсіўная.

**— Атрымліваецца, тое, што так падабаецца слухачам, ставіцца ў віну?**

— Атрымліваецца, што так. Звычайна Караткевіча падаюць больш лагодна. А ў нас, можна сказаць, ярасна. Тады інакш не ўяўлялася. Ды і цяпер, калі я праслухоўваю запісы, разумею, што інакш нічога не рабіў бы.

**— Вам ніхто яшчэ не прапаноўваў свае тэксты для песень? І ўвогуле, няма такой думкі — пасупрацоўнічаць з сучаснымі беларускімі паэтамі?**

— Такіх прапаноў не было. І я дакладна не ведаю, як адказаў бы. Павінна ж быць наадварот: тэкст мусіць зачапіць. Аўтаматам мы песні не пішам, таму і творчасць выглядае даволі рвана: за адзін месяц можа з'явіцца некалькі песень, а потым паўгода — штыль. Была спроба выбраць твор Купалы і напісаць на яго музыку, каб паўдзельнічаць у фінале "Купалаўскіх вакацый". Я не надта вялікі прыхільнік творчасці Купалы, але знайшоў для сябе два тэксты, якія мяне проста агарошылі: "Станогае ліха" і верш "Смейся":

*Вырывай з сябе жылу па жыле,*
*Ві ў вяроўку, ў пятлю і павесся,*
*І, пакуль у зямлю не зарылі,*
*Хоць дух будзе шыпець у бязсіллі, —*
*На сваіх вісі жылах і смейся!*

Вельмі гатычны Купала. Атрымалася псіхадэлічна-апакаліптычная песня. Яна трапіла ў нашую новую праграму, але як выключэнне, бо астатнія песні — на мае вершы.

**— Як з'явілася новая праграма "Месца моцы"?**

— Паралельна з працай над "Леанідамі…" мы рэпеціравалі песні на свае тэксты і паказвалі іх: "Твая свабода", "Я застаюся тут"… А потым узнікла жаданне, каб усё гэта аб'ядноўвала адна ідэя. Я лічу, што гурт павінен граць збольшага не ў "салянках", а даваць сольныя канцэрты. Магчыма, гэта звужае публіку, але сольнае выступленне зусім па-іншаму арганізуе цябе. Для мяне дыялог з гледачом больш важны, чым само стварэнне музыкі. Песня не раскрываецца цалкам да таго, як уступае ў абмен эмоцыямі з гледачом. Да таго як паказаць песню я не разумею яе напоўніцу і найграю нешта, як сляпы. Песня нараджаецца ў момант, калі ёю дзелішся. І нават маўчанне людзей падчас паказу "Леанідаў…" — магутная рэч. Калі ж яны дзякуюць сваімі апладысментамі ў канцы — наступае



разрадка.

Новую праграму "Месца моцы" мы хочам насыціць рухам, каб нельга было ўседзець на месцы, каб хацелася прытопваць, хлопаць, рэагаваць не эмоцыямі, а целам. І цікава, ці ўдасца нам гэта. Бо разварушыць народ атрымліваецца не ў такой ужо вялікай колькасці беларускіх гуртоў.

**— Вы зазначылі, што важна, каб усю праграму аб'ядноўвала адна ідэя. Якая ідэя ў "Месцы моцы"?**

— Яна даволі эфемерная, хаця куды ўжо больш эфемерна за каханне, на якім стаяць "Леаніды…". "Месца моцы" прысвечана Асобе, якая спрабуе зразумець сябе як грамадзянін нашай краіны. Без палітычных ці іншых афарбовак. Проста разуменне таго, што ты ёсць частка вось гэтай прасторы, і нават не тэрытарыяльнай…

**— Тутэйшай?**

— "Тутэйшай" — самае блізкае азначэнне, але слова "тут" — мала. У выразе "Я нарадзіўся тут" адчуваецца дадзенасць. "Я пампу тут" — фаталізм. А ў нас ёсць песня "Я застаюся тут", дзе прысутнічае ярка афарбаваны выбар чалавека. Ён прыйшоў на гэтую зямлю — а для чаго? Да нечага прыстасавацца? Ці каб сказаць сваё слова? Ці адчуць, што ты едны з гэтым міфічным "тут" (мне не падабаюцца словы "зямля", "Радзіма", бо яны настолькі дэвальваваныя, што нават не хочацца іх ужываць)? Калі адчуваеш еднасць з прасторай, дзе нарадзіўся, з'яўляецца сэнс. Мне падаецца, што ў вялікай колькасці беларускай моладзі няма ўсведамлення "навошта я тут?" Таму так лёгка і з'язджаюць. Я не супраць касмапалітызму, магчымасці навучацца, жыць, працаваць за мяжой, але… Калі задумацца пра абарону гэтага самага "тут", сітуацыя не самая лепшая. І справа не ў мове, не ў ад'ездах, а ў згубленасці, у жыцці не па сваіх каштоўнасцях. Такое адчуванне, што народ пражывае чужое жыццё, набіваючыся ў краму эплаў, быццам там вывесілі твор мастацтва. І пры гэтым людзі не задумваюцца — а навошта яно трэба? Ува ўсім гэтым раствараецца нашае "тут". І хочацца паспець адчуць, што значыць пафасны выраз "любоў да Радзімы", пакуль яго канчаткова не раз'ела. Я адэкватны чалавек: нічога супраць модных дэвайсаў ды гаджэтаў не маю, актыўна карыстаюся электроннымі "чыталкамі" і інтэрнэтам, — але калі ў Кітаі чалавек прадае нырку, каб набыць апошнюю мадэль ай-фона… Многія людзі *метафарычна прадаюць нырку...* Новая праграма — спроба ўхапіцца за каштоўнасці, якія — свае.

Насамрэч "Месца моцы" — іранічная назва, і ў першую чаргу я іранізую з самога сябе. Так раней называлі язычніцкае свяцілішча і ўвогуле месца, моцнае энергетычна. Падчас паездкі на "Бардаўскую восень" таварышы з Бельска арганізавалі нам экскурсію да аднаго такога свяцілішча, якое знаходзіцца ў Белавежскай пушчы, але — на польскай тэрыторыі. І тады я зразумеў, што ў мяне нешта адбіраюць. Я ўсвядоміў, што я — беларус, і прытым беларус, які пазбаўлены нават свайго месца моцы. Нават тое, чым я магу падпітацца, знаходзіцца хоць і каля мяжы, але ўсё ж за ёю. Гэта так прабрала, што новая праграма ўрэшце гарманізавалася і атрымала свой канчатковы, цыклічны выгляд.

У "Месцы моцы" чалавек праходзіць праз шэраг ростаняў, пошукі і страты, і ў выніку зноў аказваецца ў вобразе маленечкага дзіцёнка — "калі я быў маленькі, я вучыўся хадзіць па вадзе, ды толькі вось нешта вучоба далей не ідзе. Калі я быў маленькі, я трымаў на далонях Сусвет. Нам ніхто не сказаў, што любоў — наш святы запавет". Але Чалавек у нас не такі і безвольны. Ён думае. Ён добра ўяўляе сваё месца. Ён спрабуе нешта зрабіць, хоць і атрымлівае паразу. Нягледзячы ні на што, Чалавек прымае рашэнне, што застаецца тут. Прыняць сваё рашэнне — вось ідэйны цэнтр праграмы.

**— Вы спадзеяцеся, што вашыя песні прымусяць задумацца моладзь, ці проста выказваеце тое, што турбуе?**

— Я вельмі спадзяюся, што нашы песні некаму дапамогуць. Але хочацца, каб людзі не мозгам зразумелі, — што называецца, "я послухал, подумал и понял", — а менавіта адчулі.

**— Ці паддаецца ваша музыка жанравым характарыстыкам?**

— Яна эклектычная. Аснова рокавая. Даволі багаты этнічны складнік. Музыкі любяць джаз, таму часта прапануюць нейкія ідэі адтуль. Элементы псіхадэліі. Паглядзім, што яшчэ ў электрычнасці з'явіцца. Стылёва акрэсліць складана — штампы працей звонку раздаваць. Лічу перспектыўным кірункам рэп пад рокавыя матывы.

**— Як думаеце, год праз дзесяць гурт "Нельга забыць" яшчэ будзе існаваць?**

— Вельмі на гэта спадзяюся, бо ў нашых умовах шырокавядомымі могуць стаць толькі доўгатэрміновыя праекты. Канечне, бывае і ўдача, якая можа крышачку ўзняць на хвалю, але каб стаць прафесіяналам, трэба доўга граць, а ў мяне ў планах гэта ёсць.

## Агледзіны

### У свеце чараўніцтва

Марына Саломіна — маладая пісьменніца з Гомеля, якая стварыла свой першы раман у жанры "фэнтэзі". Для яе гэта быў сур'ёзны крок у літаратурнае жыццё. Пасля выхаду кнігі "Ліліт. Камень Стваральніка" Марына знайшла свайго чытача. А гэта самае галоўнае для пачынаючага аўтара.

Большасць твораў у жанры "фэнтэзі" развіваецца па прынцыпе: "Пачалі за здароўе, скончылі за спачын". Раман жа Марыны Саломінай пачынаецца крыху заблытана. Аднак ужо ў другой частцы чытач паглыбляецца ў вір падзей. Сюжэт просты: звычайная дзяўчына Ліліт трапляе ў чароўны свет троляў і эльфаў, вучыцца ў школе Стваральнікаў, якая знаходзіцца на Паўночных Эльфійскіх Землях. Здавалася б, кожны падлетак марыць патрапіць у свет чарадзейства і магіі, але толькі не Ліліт. З моманту, як дзяўчыну прывезлі ў школу, яна не адчувала радасці. Ёй усё было дзіўна. Ды і з такім характарам ці магло наогул усё быць спакойна?! Аўтар рамана "Ліліт. Камень Стваральніка" надала сваёй гераіні яркія рысы не толькі знешнасці, але і ўнутранага свету. Дзякуючы сваёй няўседлівасці Ліліт увесь час трапляе ў непрыемнасці. З самага пачатку рамана яна ўступае ў канфлікт з пляменнікам Дырэктара школы Анахадорам, які паступова перарастае ў вялікае каханне. Канец рамана атрымаўся незвычайным: у школе спраўляюць баль у гонар Ліліт і яе каменя, а таксама цырымонію шлюбу. Але… у самы адказны момант у зале з'яўляецца закаханы ў Ліліт вампір Леон, які прылюдна прызнаецца ёй у каханні. Пасля чаго яна адпраўляецца ў іншыя землі, дзе будзе чакаць з'яўлення на свет свайго дзіцяці. На гэтым заканчваецца першая частка рамана.

Аўтарка змагла зачапіць чытача сваёй манерай пісьма. Раман чытаецца на адным дыханні. І, здавалася б, вось засталося некалькі старонак да канца — і ўсё стане зразумела. Але раман рэзка абрываецца, пакідаючы таямніцу, ключ да якой чытачы знойдуць у наступных частках "Ліліт. Камень Стваральніка".

**Ала ДАРАШЭНКА**

### Паэзію ў масы!

"Кухня. Паэзія!" — гэта праект, створаны для таго, каб аб'яднаць маладых пісьменнікаў. У кастрычніку 2011-га патрапачатковец Зміцер Курашоў сабраў знаёмых літаратараў-маладзёнаў і прапанаваў стварыць арганізацыю, скіраваную на развіццё паэзіі ў Беларусі. З таго часу "Кухня" пачала існаваць у рамках інтэрнэт-прасторы, а потым і ў рэаліях сучаснага працэсу. З аднаго боку, праект уяўляе сабой літаратурнае аб'яднанне кшталту Тутэйшых, Бум-Бам-Літу і г.д., з іншага ж, мае сваю спецыфіку. Мерапрыемствы "Кухні" адрозніваюцца хатняй гасціннасцю і звычайна ладзяцца ў межах паэтычных кватэрнікаў. На дадзены момант адбылося каля 10 такіх хатніх вечарын, у тым ліку ўдзел у дабрачыннай імпрэзе ў падтрымку мастачкі Настассі Майстрэнкі і фестывалі моладзевых эксперыментальных арт-праектаў "Fun House 2012". А не так даўно энтузіясты распачалі выпуск відэазамалёвак пра знакамітых паэтаў. У планах маладых "кухараў" выдаць "зіны" — невялікія брашуры з аднаго аркуша фармату А4, якія ўяўляюць сабой зборнікі вершаў на пэўную тэматыку. Паводле аднаго са стваральнікаў праекта Аляксандра Альшанскага, ужо хутка можна будзе знайсці ў шматлікіх кавярнях і на стэндах горада першы такі зборнік пад назваю "Рэцэпт спакою". Таксама сёння сіламі актывістаў "Кухні" ідзе вывучэнне біяграфій і твораў знакамітых паэтаў для складання праграмы "Паэзію ў школы!". У рамках гэтай праграмы плануецца распавесці школьнікам пра тое, чым жылі і "дыхалі" паэты — зрабіць "мікс" з паэзіі і гісторыі, зацікавіць чытачоў.

**Ганна ДУСЬ**

**"Яна занадта складаная", — так часам апраўдваюцца тыя, хто не хоча вывучаць беларускую мову. Ці так гэта насамрэч? Сёння ў свеце размаўляюць на 5 тысячах моў і дыялектаў. Толькі ў Індыі іх 845, а мовы Папуа-Новай Гвінеі наогул складаюць 10 адсоткаў ад усіх існуючых на Зямлі. Што да цяжкасці, дык у мове паўночнаамерыканскіх індзейцаў чыпева існуе каля 6 тысяч дзеяслоўных формаў, у табасаранскай мове — адной з дзяржаўных моў Дагестана — 48 склонаў, у мове эскімосаў — 63 формы цяперашняга часу. Наваха ў гады Другой сусветнай вайны нават выкарыстоўвалася ў якасці сакрэтнай мовы (радыстамі былі білінгвы, якія гаварылі на наваха, а расшыфраваць паведамленні было амаль немагчыма, бо не існавала ні слоўнікаў, ні адпаведных граматык). Нашыя суседзі — палякі ды эстонцы — таксама могуць пахваліцца досыць складанымі граматычнымі нормамі: у эстонскай мове 12 склонаў, а ў польскай — 7, але выключэнняў нашмат больш, чым правілаў... Кітайская ж мова, якой імкнуцца авалодаць вельмі многія нашыя сучаснікі, не лічачы ўласна мільярда яе носьбітаў, сапраўды належыць да самых складаных. Напрыклад, іерогліф "нан", які перакладаецца як "заложаны нос", вымалёўваецца з 36 рысачак... Можа быць, некаму проста прыемна лічыць сваю мову незвычайнай? Прапануем чытачам "ЛіМа" позірк нямецкага аўтара.**

# Мовы — розныя. Праблемы — аднолькавыя!

**Вольфганг КРЫШКЕ**

## ЧАМУ Ў ІХ ТАК?

Хіба нямецкая мова такая цяжкая? Яна не вытрымлівае і параўнання з мовай ягуа, якой размаўляюць на перуанскім узбярэжжы Амазонкі: яе носьбіты выкарыстоўваюць пяць ступеняў прошлага часу, у адпаведнасці з якімі адрозніваюцца і канчаткі дзеясловаў. Так што суразмоўцы мусяць сачыць, колькі часу прайшло ад падзеі: гадзіна, дзень, месяц ці больш. Альбо аўстралійская далабон — яе правілы патрабуюць адпаведнасці сваяцтва альбо сацыяльнай іерархіі, што передаецца заблытанай сістэмай складоў, якія размяшчаюцца перад уласна выказваннем. Дакладнасці вымагае і "граматыка відавочнасці" некаторых моў Амерыкі і Афрыкі: пры кожным выказванні трэба выбіраць форму, якая паказвае, бачыў прамоўца тое, пра што гаворыць, чуў пра гэта або толькі выказвае ўласнае меркаванне.

Чым глыбей пранікаюць лінгвісты ў нееўрапейскія краіны свету, тым больш зразумелым робіцца: многія мовы, калі разглядаць іх з граматычнага пункту гледжання, з'яўляюцца выключна складанымі. Яны дзейнічаюць падобна чароўнаму слову "мутабор", якое ў казцы пра Каліфа-Бусла ператварае чалавека ў птушку. Падобныя мовы ўпакоўваюць максімум інфармацыі — формы часу, незалежны і залежны стан, умоўны лад, лік, паказчыкі прыналежнасці і г.д. — у канчаткі і прыстаўкі слоў. Такім чынам, нямецкі адпаведнік са значэннем "я ператвараюся" змяшчае ажно чатыры словы — Ich werde verwandelt werden.

Чаму так адбываецца? Магчыма таму, што прамаці нямецкай ды іншых германскіх моў індаеўрапейская мова таксама не вызначалася прастатой: у назоўніка, прыкладам, было восем склонаў, разам з адзіночным і множным лікам выкарыстоўваўся парны — для азначэння пар асоб і прадметаў, а спражэнне дзеясловаў жахнула б сучасных вучняў. Большую частку гэтай разнастайнасці мовы-спадкаемцы згубілі.

## МАЛЫЯ — БОЛЬШ СКЛАДАНЫЯ

Чаму малыя мовы часцяком маюць больш складаную структуру, чым мовы сусветнага значэння? У пошуках адказу можна зазірнуць у арыгінальны "Сусветны атлас моўных структур", які вось ужо некалькі год ствараецца ў Інстытуце эвалюцыйнай антрапалогіі імя Макса Планка ў Лейпцыгу і аб'ядноўвае незлічоныя лінгвістычныя даследаванні ў глабальную "Моўную карту" (*http://wals.info*).

Пры дапамозе інфармацыі з гэтага атласа лінгвісты Гары Лупіян і Рык Дэйл прааналізавалі суадносіны марфалогіі больш як 2236 моў да колькасці іх носьбітаў і геаграфічнага распаўсюджвання і адказалі на пытанне пра мовы з самай складанай граматыкай: аказалася, што найбольш разгалінаваныя канструкцыі і вычварныя правілы ўласцівыя менавіта малым і даволі ізаляваным мовам з некалькімі сотнямі носьбітаў.

У малых моўных супольнасцях, дзе ўсе ведаюць адзін аднаго, выкшталцоныя выкрутасы захоўваліся б даўжэй, чым у вялікай урбаністычнай грамадзе са шматлікімі знешнімі кантактамі, тлумачыць сацыялінгвіст Петэр Трудгіль з Агдэрскага ўніверсітэта ў Нарвегіі,які таксама даследуе сувязі граматыкі і дзяржавы. Вырашальны момант: малыя мовы амаль ніколі не вывучаюцца носьбітамі іншых моў як замежныя. У адрозненне ад дзяцей, якія даволі лёгка ўжываюцца ў граматыку, дарослым складана асвойваць складаныя формы чужой мовы — і яны схіляюцца да спрашчэння.



Узоры можна знайсці ў нямецкай мове гастарбайтараў сямідзясятых гадоў альбо сучаснай нямецка-турэцкай трасянцы. Такія прыклады могуць стаць моўным стандартам, але толькі тады, калі іх носьбіты стануць грамадскай большасцю. Якраз гэта і адбылося з англійскай мовай, якую прывезлі на востраў англасаксонскія захопнікі: у працэсе ўжывання кельтамі, вікінгамі і нарманамі яна згубіла многія граматычныя адметнасці і сёння мае самую простую марфалогію з усіх германскіх моў. Нямецкая мова займае ў гэтым рэчышчы прамежкавае становішча, а вось ісландская і фарэрская мовы захоўваюць разнастайнасць марфалагічных формаў. Петэр Трудгіль мяркуе, што гэта невыпадкова: гэтыя дзве мовы стагоддзямі існавалі ў адноснай ізаляванасці.

Зрэшты, лінгвістычныя вымярэнні складанасці мовы маюць і відавочны недахоп: яны абмяжоўваюцца марфалогіяй і пакідаюць без увагі іншыя галіны. Але часам мовы з простымі словаўтваральнымі структурамі маюць неверагодна вытанчаную будову сказаў альбо "раскошную" фанетыку... Фактычна лінгвісты доўгі час абвяшчалі аднолькавую складанасць усіх моў на Зямлі. Але гэта не так. Сёння існуе меркаванне, што догма пра падобную лінгвістычную роўнасць бярэ пачатак з паліткарэктнасці, а не з эмпірычнага пазнання, бо расповеды пра прымітыўнасць моў жыхароў джунгляў — яшчэ адзін міф. Хаця часам дзейнічае і прынцып раўнавагі: сярод 6 тысяч моў свету на самай справе ёсць тыя, што на ўсіх узроўнях маюць простую арганізацыю, — яны складаюць мінімалістычную процілегласць такім мовам, як ягуа. Але часцей за ўсё гаворка ідзе пра мовы, якія выкарыстоўваюцца людзьмі з рознымі роднымі мовамі ў якасці спрошчанага сродку зносін альбо тыя, што развіліся з падобных ужытковых моў.

Адной з самых эканомных граматык у свеце валодае рыау-інданезійская мова: гутарковая мова мільёнаў жыхароў вострава Суматра. Многія граматычныя катэгорыі ў гэтай мове не існуюць: так у спалучэнні "*ayam makan*" словы "курыца" і "есці" стаяць побач, але хто ясі — сама курыца ці яе, колькі ўсяго птушак і калі ўсё адбываецца — у мінулым ці зараз — усё гэта вынікае толькі з кантэксту.

Для Дэвіда Гіла з Інстытута эвалюцыйнай антрапалогіі імя Макса Планка, які даследуе інданезійскую моўную прастору, гэта недакладнасць не з'яўляецца недахопам. З іх пункту гледжання, складанасць чалавечых моў далёка не абавязковая для камунікавання ў грамадстве. Такім жа чынам глядзіць на сітуацыю і лінгвіст Марцін Хаспельмат: "Для ўзаемаразумення большасць граматычных формаў не з'яўляюцца неабходнымі". Інфармацыя, якую яны даюць, — гэта толькі вяршыня айсберга. У любой мове ёсць тое, што раскрываецца толькі ў кантэксце.

## БАГАЦЦЕ ФОРМАЎ — ДЛЯ ПАПЕРЫ

Дык няўжо граматычныя формы — гэта непатрэбная раскоша, якая вымушае напружвацца ў працэсе вывучэння моў? Нават самі лінгвісты разглядаюць багацце моўных формаў як баласт для маўлення, але ад гэтага багажу нельга адмовіцца. Найперш трэба адрозніваць маўленчы працэс ад пісьма, сцвярджае даследчык Утц Маас з Грацкага ўніверсітэта: "Той, хто ўзабраўся на драбіны і хоча забіць цвік, мусіць толькі выгукнуць: "Малаток!" — і ўсе адразу зразумеюць, чаго ён хоча. Але для пісьмовай мовы гэтага недастаткова".

Пісьмовая мова не толькі ператварае гукі ў літары. Гэта сродак абстрагавання, які не можа разлічваць на кантэкст, бо павінен праз час і прастору перадаваць найтанчэйшыя адценні думкі. Дзеля гэтага мова павінна ўдасканальвацца пры дапамозе граматычных канструкцый. Для нямецкай і іншых еўрапейскіх моў лаціна на працягу стагоддзяў была крыніцай развіцця. "Нават кітайская літаратурная мова, якая часцяком прыводзіцца ў якасці ўзору граматычнай эканомнасці, вынайшла дасканалыя канструкцыі сказаў", — сцвярджае Утц Маас. Сапраўды простых пісьмовых моў, здаецца, не існуе. Нават нямецкая застаецца складанай...

**"Die Zeit", № 29 за 12 ліпеня 2012 г.**

**Пераклад з нямецкай Канстанціна Вялікоўскага**

# У пошуках выразнасці

Кожны літаратар адчувае патрэбу ў максімальна выразных сродках, якія дапамогуць больш глыбока адлюстраваць задуму на паперы.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ**

Добрым памочнікам стане новая кніга Міхаіла Пазнякова "Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы". Узрадавала, што яго напісаў вядомы паэт, што працягваецца добрая традыцыя: у свой час такім выданням спрыялі выдатныя творцы М. Гарэцкі, П. Глебка, Я. Колас, К. Крапіва, А. Лойка, І. Навуменка і іншыя. Задачай аўтара было даследаванне эпітэтаў — надзвычай важнага вобразна-стылявога сродка, які дапамагае пісьменніку ці журналісту зрабіць свой твор больш трапным, жыццёвым, запамінальным.

Што і казаць, некаторыя нашы СМІ яшчэ не спынілі безразважнай навалы замежных і нацыянальных "неалагізмаў". І тут выходзіць кніга, якая скіравана ў сферу сапраўднага развіцця беларускай мовы, яе клапатлівага ўзбагачэння. Творчая праца шукальніка і даследчыка вымагала звароту да творчасці мноства пісьменнікаў і журналістаў, іх літаратурнага досведу. Чытачу прыемна сустрэць у кнізе М. Пазнякова знаёмых аўтараў.

У новы слоўнік увайшло амаль 450 найбольш ужывальных назоўнікаў беларускай мовы і мноства эпітэтаў да іх, пададзеных па семантычных групах. Да прыкладу, назоўнік "выгляд" — знешні воблік чалавека. Колькі да яго можа быць паясняльных, характэрных эпітэтаў? З захапленнем чытаем: "...адважны, адчайны, анёльскі, важны, вінаваты, дзелавіты, горды, трывожны..." На дзіва шмат, займаюць цэлую старонку. Палічыў усё-такі, названы — 211. Аўтар прыводзіць цытаты з твораў мастацкай і навуковай літаратуры, газет і часопісаў: "Кінь выгляд слязлівы, нявольны; у тваіх руках слава і доля. (Я. Купала)". Заўважым, цытаты ў большасці падабраны выразна і сакавіта, як узор літаратурнага майстэрства, і яны, безумоўна, маюць павучальны сэнс, скіроўваючы да творчага пошуку. Як слушна піша ў прадмове аўтар: "Пошукі найбольшай выразнасці слова праз мастацкае азначэнне — адна з умоў жыццяздольнасці і паўнакроўнасці мовы".

# Легенда оперы Юрый Бастрыкаў



8 кастрычніка споўніўся год, як пайшоў з жыцця знакаміты оперны спявак, вядучы барытон Вялікага тэатра нашай краіны — народны артыст Беларусі Юрый Бастрыкаў. На сцэне тэатра ён выступаў амаль сорак гадоў, за гэты час артыст выканаў усе лепшыя партыі, напісаныя для яго голасу: Рыгалета і Гразнога, Дон Жуана і Шаклавітага, князя Ігара і Томскага, Яга, Ліндорфа, Капеліуса, Аманасра і інш. Яго магутны барытон называлі “голасам-цунамі” — менавіта для такіх галасоў стварылі оперы Вердзі і Пучыні, Леанкавала, верысты... Яркая артыстычная натура дазваляла Юрыю Бастрыкаву ствараць на сцэне надзвычай глыбокія і моцныя вобразы.
Нягледзячы на тое, што легендарны спявак пайшоў з жыцця заўчасна, не дажыўшы да 75-гадовага юбілею ўсяго паўгода, можна з упэўненасцю лічыць, што ён прайшоў доўгі і яркі прафесійны шлях. Наколькі поўна Юрый Бастрыкаў рэалізаваўся ў прафесіі, настолькі ж шчаслівым ён быў у шлюбе. Творчы і сямейны саюз двух народных артыстаў Беларусі Юрыя Бастрыкава і Наталлі Гайды існаваў амаль паўстагоддзя.
І сёння, спецыяльна для чытачоў “ЛіМа”, асобу свайго мужа, цікавыя моманты іх сумеснага жыцця ўзгадвае прымадонна беларускай аперэты Наталля Гайда.



Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ

**— Наталля Віктараўна, вы ж далёка не адразу звярнулі ўвагу на чалавека, які потым стаў вашым адзіным на ўсё жыццё мужам. Чым Юрый Георгіевіч вас заваяваў?**

— Мы вучыліся разам у Свярдлоўскай кансерваторыі. Першы крок зрабіў Юра. Пасля аднаго з экзаменаў ён падышоў да мяне і павіншаваў. А на наступны дзень, калі мы прыйшлі слухаць аднакурснікаў, ужо заняў мне месца побач з сабой. Потым у кіно запрасіў, і стала зразумела, што ён пачаў да мяне заляцацца. Хоць мне студэнткі і казалі: “Натка, ты што?! Паглядзі! Ён жа спіць у бабачцы!” У тым плане, што Юра заўсёды хадзіў вышэшчаны: накрухмаленая кашуля, бабачка… Аднак я не ўспрымала яго сур’ёзна, пакуль мы не паехалі ў спартыўны лагер. І апынулася, што бабачка бабачкай, але ніхто з хлопцаў так, як Юра, дровы не калоў! Тады я зразумела, што ён зусім не мамчын сынок. Да гэтага ўражання далучыліся і іншыя: дзякуючы Юру ў маім пакоі ў інтэрнаце ніколі не пераводзіліся кветкі, таксама ён вельмі ўважліва ставіўся да людзей, прычым гэта было зусім не паказное, а ўласцівасць яго характару.

**— Ваша сям’я пераехала ў Мінск у 1969 годзе са Свярдлоўска. Там вы з мужам былі, як сёння кажуць, “у абойме”: спявалі вялікі рэпертуар у Оперным тэатры, мелі добрыя кар’ерныя перспектывы... Што вас прымусіла зняцца з месца, пакінуць родных і сяброў і разам з маленькай дачкой пераехаць у іншую рэспубліку?**

— Сітуацыя, у якой мы з Юрам апынуліся тады, вельмі яскрава паказвае, якім добрым ён быў мужам. Справа ў тым, што ініцыятарам пераезду была я. У Свярдлоўскім тэатры стала пагаршацца атмасфера, у мяне з’явіліся некаторыя праблемы з кіраўніцтвам, і я сказала Юру, што мне трэба было б сысці.

**— І Юрый Георгіевіч быў гатовы пайсці вам насустрач, з’ехаць?..**

— Так! Ён сказаў: “Давай, Націк, будзем праслухоўваца куды скажаш”. Юра ўзяў удзел ва Усесаюзным конкурсе барытонаў, які быў абвешчаны ў ДАВТ БССР. Ён вельмі лёгка перамог, пры тым, што спрабавалася шмат годных спевакоў з усяго Саюза. Мой голас тэатру быў не патрэбны, але мяне ўзялі нават не праслухоўваючы, разам з мужам. А праз год я перайшла ў аперэту, а Юра хутка стаў вядучым спеваком у Вялікім тэатры. Разумееце, у Мінску нам прыйшлося пачынаць усё спачатку. Можа, таму Юра і свае званні пазней атрымаў… Але гатовы быў мяняць сваё жыццё і ехаць туды, дзе мне будзе лепш. Адначасова ён адчуваў і ўпэўненасць у сабе: не баяўся з’язджаць і паказвацца дзесьці, верыў, што зможа паехаць у любы тэатр і будзе запатрабаваны. Увогуле, так і атрымалася.

**— Як Юрый Георгіевіч апынуўся ў прафесіі?**

— У мяне схільнасць да спеваў ад маці, а ў Юры — ад бацькі. Яго тата — прафесійны шахматыст, які шмат раз’язджаў па Саюзе, доўга жыў у Маскве і вадзіў знаёмствы з тагачаснай творчай інтэлігенцыяй. Георгій Уладзіміравіч добра спяваў, быў вельмі адукаваны, інтэлігентны чалавек з выдатным густам і разуменнем мастацтва. Ён нават спачатку моцна Юру крытыкаваў не за голас ці тэхніку, а за музыкальнасць і выразнасць. Потым ужо, калі Георгій Уладзіміравіч прыехаў у канцы сямідзясятых гадоў сюды, у Мінск, ён прыходзіў на нашы з Юрам спектаклі і, дзякуй богу, заставаўся задаволены.

**— Да вас, прымадонны беларускай аперэты, усё жыццё была павышаная ўвага. І публіка, і калегі, і прэса захапляліся вамі. А ваш муж, пры тым, што спяваў выдатны рэпертуар у Вялікім тэатры Беларусі, меў павагу калег, прайшоў яркі творчы шлях, чамусьці заўсёды быў крыху ў цені ад вас...**

— Не зусім. Узгадаем Свярдлоўск, дзе мы разам працавалі ў тэатры. Калі параўноўваць нашы прафесійныя якасці, то трэба сказаць, што муж на гэты перыяд быў больш тэхнічны, больш прафесійны спявак. У мяне было нямала чыста вакальных праблем. Таксама і кола аматараў опернага мастацтва было больш вузкім, чым у мяне. Юрый Георгіевіч быў “шырока вядомым у вузкіх колах”. Я ж заўсёды была навідавоку: на канцэрт у шпіталь, ваенную частку, на завод? Калі ласка! Спявала ў тэатры, на эстрадзе, на тэлебачанні… Таму ў мяне была шырэйшая аўдыторыя. Юрый Георгіевіч так не мільгацеў, тым больш у яго яшчэ была такая рыса характару, як сціпласць. Ён ніколі не хадзіў і не прапаноўваў сябе, як гэта рабілі многія іншыя. Вось таму і атрымалася так, што я быццам бы больш папулярная.



*Заўжды разам*

Самае смешнае, што ён мяне ніколі не раўнаваў да поспеху і не крытыкаваў. Я нават гаварыла, маўляў, гэта таму, што я твая жонка. А Юра ў адказ: “Націк, што ж я ўжо зусім нічога не разумею ў нашай справе?”

Цікава яшчэ і тое, што далікатны, уважлівы і чулы ў жыцці, Юра не вельмі ўмеў паказваць каханне на сцэне. Ці, можа быць, так здавалася мне, ягонай жонцы... Ён проста прыгожа спяваў. Аднойчы я выказала яму заўвагу на гэты конт: папракнула на тое, што ён не вельмі кахае сваю партнёрку па спектаклі. На што Юра мне адказаў: “Націк, ну вось такі я дуб!” (*смяецца*). І наадварот. Негатыўныя пачуцці — нянавісць, пагарду, злосць — артыст Бастрыкаў перадаваў надзвычай моцна і арганічна. Пры тым, што ў жыцці быў вельмі добразычлівым, спакойным, роўным у зносінах чалавекам, які ніколі не дазваляў сабе разводзіць плёткі ці рабіць падкопы.

**— Так, тым больш, і публіка, і спецыялісты сыходзяцца ў думках: кароннымі партыямі Юрыя Бастрыкава былі гераічныя, драматычныя…**

— І наогул увесь вердыеўскі рэпертуар. Ён нават сам гаварыў, што Вердзі пісаў якраз для яго. Спяваць у “Аідзе” або “Рыгалета” для яго было важней, чым у той жа “Травіяце”, дзе ён выконваў партыю Жэрмона. Па маім меркаванні, проста бліскуча ў Юры гучаў Дон Карлас у аднайменнай оперы, таксама яго кароннымі спектаклем былі “Казкі Гофмана”, дзе ён быў проста непараўнальным злодзеем. Вельмі пераканаўчым Юра быў і ў рускіх операх.

**— Юрый Бастрыкаў быў вельмі запатрабаваным салістам Вялікага тэатра Беларусі. Напэўна, у яго прафесійным поспеху ёсць і ваш унёсак?**

— Спачатку я была не вельмі вытрыманай і магла даволі рэзка пакрытыкаваць Юру, пакрыўдзіць яго. Ён нават казаў: “Усе ў цябе спяваюць добра, адзін я дрэнна”. Дарэчы, у Юры быў такі галасавы апарат, які дазваляў яму перабіраць некалькі варыянтаў, як праспяваць той ці іншы гук. Сам ён не адчуваў і пытаўся ў мяне, як правільней, выразней, прыгажэй. Я давала яму парады адносна фразіроўкі, таго, чым спевакі часта грашаць, захапляючыся вакальнай лініяй і забываючы пра словы і сэнс. Але Юра быў вельмі патрабавальным да сябе, ён вельмі сур’ёзна ставіўся да працы і скрупулёзна выконваў свае музычныя задачы.

**— А калі наадварот? Чым вам муж дапамагаў у прафесіі?**

— Юрый Георгіевіч спяваў вельмі свабодна. Я назірала за ім і пераймала яго манеру правільна дыхаць. Дарэчы, не адна я спрабавала навучыцца ў Юры гэтаму. Маладыя оперныя спевакі падыходзілі да яго і прасілі адкрыць сакрэт правільнага дыхання. Але муж не меў педагагічных здольнасцей і мог толькі прадэманстраваць. Ён гатовы быў нават задраць кашулю і паказаць: калі ласка, глядзіце, слухайце!

**— Вы ніколі не былі абдзеленыя мужчынскай увагай. А Юрый Георгіевіч? Ці даваў ён вам падставы для рэўнасці?**

— Ён звяртаў увагу на дам. Мог, ідучы па вуліцы, азірнуцца на прыгожую дзяўчыну. Але ў сям’і ў нас не было такога, каб мучыць адно аднаго рэўнасцю, тым больш што мы разумелі спецыфіку працы ў артыстычным асяроддзі. Юра ігнараваў усё, што яму гаварылі пра мяне. Я аднойчы пераказала яму адну плётку, а ён у адказ: “Націк, а мне ўжо два дні таму ананімка пра гэта прыйшла!” Я бясконца ўдзячная мужу за тое, што ён мне так давяраў. Мы жылі па прынцыпе: што б ні здарылася, нельга з-за нейкіх непаразуменняў прычыняць боль блізкаму чалавеку. І Юра ніколі мне не даваў падставы для сумненняў. Нават аднойчы пасля яго гастроляў мне адзін Юраў калега сказаў: “Ну, Наташа, ну, Бастрыкаў у цябе — крэмень!”

Сёння мне вельмі яго не хапае. Шкада, што мы не дажылі з Юрам да залатога вяселля. Заставалася ўсяго тры гады... Цяпер я разумею, чаму я наогул выйшла замуж за гэтага чалавека — ён быў надзейны ва ўсім!

У рамках канцэртнага цыкла “Легенды беларускай оперы” адбыўся вечар памяці Юрыя Бастрыкава, прымеркаваны да 75-годдзя артыста. Творчая сустрэча прыхільнікаў яго таленту прайшла днямі ў родным для спевака Вялікім тэатры Беларусі. У Камернай зале імя Л. П. Александроўскай не было ніводнага свабоднага месца. Вечар атрымаўся надзвычай цёплым і кранальным. Гучалі нешматлікія запісы артыста, якія захавала яго жонка Наталля Гайда, арыі і дуэты з опер, якія любіў і найбольш часта спяваў Юрый Бастрыкаў. Іх выканалі сябры і калегі Юрыя Георгіевіча па Вялікім тэатры: народныя артысты Беларусі Яраслаў Пятроў, Сяргей Франкоўскі; заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Ніна Шарубіна, Віктар Скорабагатаў, Васіль Кавальчук і Алег Мельнікаў, заслужаны артыст Расіі Мікалай Маісеенка; лаўрэаты і дыпламанты міжнародных конкурсаў Таццяна Трацяк, Аксана Якушэвіч, Станіслаў Трыфанаў, Андрэй Марозаў. Партыю фартэпіяна выканаў заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Георгій Карант, які, дарэчы, стаў ініцыятарам правядзення гэтага канцэрта.

# Перажылі прэм'еру

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі яшчэ раз пацвердзіў сваё прызначэнне тэатра-лабараторыі айчыннай п'есы, увасобіўшы на вялікай сцэне камедыю Мікалая Рудкоўскага "Дажыць да прэм'еры".

Алесь СУХАДОЛАЎ, фота Аляксандра Дзмітрыева

З'яўленне гэтай п'есы ў 2009 годзе ўскалыхнула тэатральную грамадскасць. Было зразумела, што гэта "бомба", але "да" яе выбуху айчынны сцэнічны асяродак, відаць, не быў падрыхтаваны. Справа ў тым, што смелы тэкст М. Рудкоўскага самым дзёрзкім чынам развенчвае той недатыкальны арэол, якім доўгія гады акружаліся падзеі Другой сусветнай вайны. Асабліва ярка п'еса іранізуе над спробамі сучасных спекуляцый з гэтай нагоды.



Сцэна са спектакля "Дажыць да прэм'еры".

Перш чым п'еса дайшла нарэшце да падмосткаў сталічнага тэатра, яна двойчы ставілася ў Расіі, паспяхова была прэзентавана ў фармаце чыткі на фестывалі сучаснай драматургіі ў Ерэване, і толькі пасля гэтага ёй было дадзена зялёнае святло на радзіме.

Камедыя распавядае, як маладая актрыса па імені Вера, рыхтуючыся іграць партызанку ў спектаклі пра Вялікую Айчынную вайну, цалкам аддалася ўваходжанню ў ролю, уцягнуўшы ў гэты працэс гламурную сяброўку актрысу Кацю, мужа Лёшу і ўвесь навакольны свет. У смелым абыходжанні з падзеямі недалёкай гісторыі спектакль набліжаецца да фільма Квенціна Таранціна "Бясслаўныя вырадкі". Зусім іншую, патрыятычнакансерватыўную, скіраванасць нясе п'еса айчыннага драматурга Алены Паповай "Бліндаж", нядаўна пастаўленая ў Тэатры юнага гледача, што распавядае пра падарожжа ў часе і перагукаецца з расійскай мастацкай стужкай "Мы з будучыні" Андрэя Малюкова. Асабіста мне падаецца, што падыход Таранціна-Рудкоўскага да тэмы вайны значна больш плённы, у той час як лінія Паповай-Малюкова — толькі водбліскі адшумелай ваенна-гераічнай тэмы.

Для працы з такім інавацыйным матэрыялам у РТБД склалася сур'ёзная каманда маладых аднадумцаў. Павел Харланчук-Южакоў ужо паспеў зарэкамендаваць сябе як смелы і правакацыйны рэжысёр, паставіўшы ў Купалаўскім тэатры чорную камедыю "Самотны захад" М. МакДонаха. У працу над спектаклем "Дажыць да прэм'еры" ён не толькі ўклаў бунтоўны малады запал, але і выявіў сябе як досыць тонкі, інтэлігентны мастак, стварыўшы кранальныя лірычныя сцэны і цудоўна абыграўшы некаторыя "грубыя" эпізоды. Нельга сказаць, што рэжысёрскае вырашэнне характарызуецца пэўным наватарствам — не, прыёмы выкарыстаны класічныя — але, без сумневу, праца атрымалася яскрай. І гэта шмат у чым дзякуючы зладжанай рабоце каманды пастаноўшчыкаў. Сцэнаграфія Андрэя Меранкова стварыла патрэбную постмадэрновую атмасферу: развешаныя шэрагамі на розных узроўнях вайсковыя шынялі, на якія праецыруюцца кадры кінахронікі, — мінімалізм, які пакідае ўражанне пустэчы, згубленасці ў часе. Касцюмы вядомага тэатральнага мастака Алёны Ігрушы не парушылі чужога сцэнаграфічнага вырашэння: адзенне нашых сучаснікаў, дапоўненае рэзка чырвонымі дэталямі, цудоўна адлюстроўвае сённяшняе існаванне. Пры ўсім сказаным настрой спектакля лёгкі, іранічны: гэта не жорсткі фарс, не эксперыментальная артхаўсная пастаноўка, а проста сучасная камедыя, вострасацыяльная і зразумелая па змесце. Пастаноўка прынесла на сцэну рэаліі сучаснага жыцця: гарадскі слэнг, брэндавую вопратку, сексуальныя стасункі і інш.

Моцная каманда праявіла сябе і ў акцёрскім складзе. Цвёрдую, непахісную "сучасную партызанку" Веру стварыла Вераніка Буслаева. Вера — валявы жаночы вобраз, вакол якога закручана дзеянне. Яна церпіць усе нястачы — голад, антысанітарыю, што стварае сама сабе, перамагае ўсе жаночыя слабасці і мужна трымаецца да самай апошняй сцэны насуперак мужу і ўсяму навакольлю. (Як паказальна гучаць яе маразматычныя словы: "У цябе сусветны эканамічны крызіс, у мяне — Другая сусветная вайна"!) І толькі напрыканцы імпрэзы, пасля "прэм'еры-перамогі", Вера зноў пераўвасабляецца ў мілую дзяўчыну.

Сапраўднага камічнага пакутніка ўвасобіў Аляксандр Марчанка, выканаўца ролі Верынага мужа Лёшы. Сучасны малады чалавек, прагматычны, эгаістычны, прайшоўшы праз тыя кругі пекла, што яму падрыхтавала жонка, Лёша ўрэшце становіцца чулым і рамантычным. Юрлівая, бестурботная Каця ў выкананні Анастасіі Бабровай таксама зведвае душэўную трансфармацыю — кактэйль з марціні яна мяняе на кактэйль Молатава і жорстка разбіраецца са зграяй п'яных "гопнікаў", што выпадкова з'яўляецца на яе шляху. Момант сустрэчы з "гопнікамі" — цікава вырашаны рэжысёрам і выкананы актрысай з асаблівым драматычным напалам. Бэла Шніпер, якой выпала складаная і разнапланавая роля Жанчыны, яскрава прадэманстравала талент камічнай актрысы. У сцэнах, дзе яна ўвасабляе прастытутку, і прадаўшчыцу, і няшчасную дачку, што даглядае хворую маці, — паўсюль прасочваецца нейкі народны вобраз "цёткі Клавы з Адэсы". Непадробна забаўны вобраз інструктара па фітнесе стварыў Максім Брагінец. Тупаваты, зласлівы няўдачнік, ён тым не менш выклікае ў гледача сімпатыю, бо выяўляе сябе дарослым хлопцам з душой дзіцяці. У іншым складзе выканаўцаў задзейнічаны такія дасведчаныя майстры сцэны, як Людміла Сідаркевіч, заслужаны артыст Беларусі Ігар Сігоў, Максім Паніматчанка. Трэба думаць, што ўзаемадзеянне маладых артыстаў з вопытнымі калегамі таксама пайшло на карысць пастаноўцы.

Што мяне здзівіла ў спектаклі "Дажыць да прэм'еры", дык гэта наяўнасць ярка выражанага лірычнага пачатку, што збліжае яго з папярэднім спектаклем РТБД па п'есе М. Рудкоўскага "Інфляцыя пачуццяў" у пастаноўцы А. Марчанкі. І сапраўды, псіхалагічна тонка выяўлены пачуцці паміж Верай і Лёшам, а ўласна спектакль у канчатковым выніку — пра каханне, а не пра вайну. Ён не палівае брудам святую для многіх памяць, а наадварот — сцвярджае вечныя чалавечыя каштоўнасці насуперак усякім войнам і перыпетыям гісторыі. І разам з сацыяльнакрытычнай думкай спектакль "Дажыць да прэм'еры" месціць у сабе шматпланавасць і філасофскую глыбіню.

Ці выбухнуў спектакль па-сапраўднаму? Не, вялікага выбуху не атрымалася. На жаль, наш тэатр яшчэ далёкі ад жыцця, а глядач далёкі ад тэатра. Стваральнікам удалося рэалізаваць далёка не ўсе закладзеныя ў п'есе патэнцыі. Віталь Краўчанка здзейсніў цудоўны беларускі пераклад, але ці варта ўвогуле перакладаць п'есу, напісаную жывой сучаснай мовай, — гэта пытанне. "Смачныя слоўцы" ў п'есе былі заменены эўфемізмамі, інтэлігентна былі "прычасаны" пастаноўшчыкамі некаторыя "гарачыя" моманты. Карацей кажучы, спектакль мог бы быць больш правакатыўным і прывабіць да сябе масавага гледача. Пакуль жа ён застаецца прэрагатывай эстэтаў. Але што б там ні было, пастаноўка — дзейсны крок па актуалізацыі "новай драмы" ў Беларусі.

# Светлае рэха сапраўднасці

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, фота Арцёма Канцавога

Ніколі не думаў, што з такой скрухай буду ўглядацца ў вокладку ўласнай кнігі "Голас і рэха". Прыгожыя птушкі, яблыкі, лесвіца ў неба, ледзь улоўная постаць юнака... Тыповая Цімохаўская манера. Мастака Сяргея Цімохава, Сержука, як звалі яго сябры. Гэтую вокладку ён мне падарыў яшчэ ў Полацку, калі кіраваў заснаванай з сябрамі-мастакамі галерэяй "Рыса". Ён не толькі намаляваў яе, але і аддрукаваў у друкарні. Тыраж гатовай вокладкі я прывёз з сабой у Мінск, і ў 2005 годзе кніга выйшла ў выдавецтве "Чатыры чвэрці". Гэта ўвогуле незвычайна, калі менавіта мастак распачынае лёс кнігі паэта. І я падкрэсліваў на ўсіх сустрэчах, што менавіта з лёгкай рукі Сяргея Цімохава нарадзіўся гэты зборнік.

А пазнаёміліся мы ў 1986 годзе, калі выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў з сям'ёй пераехаў у Наваполацк. Цудоўная жонка-мастачка Рыта і Сяргей сталі пастаяннымі наведвальнікамі літаб'яднання "Крыніцы", бралі ўдзел у абмеркаванні твораў маладых паэтаў і празаікаў.

Неўзабаве Сяргей з Аляксандрам Канавалавым, Алегам Ладзісавым і мужам і жонкай Васільевымі стварае творчую суполку "4-63", а пазней — галерэю "Рыса", якая стала адыгрываць прыкметную ролю ў грамадскім і творчым жыцці Полацка і Наваполацка. Пры падтрымцы тадышняга дырэктара камбіната будматэрыялаў Уладзіміра Цялежнікава "Рыса" займела сваё памяшканне, дзе праводзіліся выстаўкі мастакоў з Мінска, Віцебска, мясцовых маладых творцаў.

Праз некаторы час Сяргея Цімохава запрасілі ў Полацкі гарвыканкам на пасаду галоўнага мастака горада. Гэта дзякуючы Цімохаву не адбылася хаатычная забудова цэнтра горада, захаваўся яго гістарычны твар. У Полацку з'явіліся новыя шыльды, мастацкае афармленне стала прадуманым і мэтанакіраваным. Так старажытны горад стаў прыкметнай вехай у біяграфіі мастака, але яго заўсёды вабіла сама творчасць, жывапіс.

У Мінск, горад, у якім ён вучыўся спачатку ў мастацкім вучылішчы, а потым у Акадэміі, дзе быў адным з любімых вучняў Гаўрылы Вашчанкі, ён вярнуўся ўжо сталым і даволі вядомым майстрам. Я радаваўся поспехам Сяргея, удзелам яго ў прэстыжных выстаўках і ніколькі не здзівіўся, калі яго абралі намеснікам старшыні Саюза мастакоў. Тут кіпучая энергія, арганізатарскія здольнасці Цімохава раскрыліся напоўніцу.

У гэтых біяграфічных звестках усё ж цяжка ўбачыць усю шматгранную асобу Сяргея — вернага сябра, цудоўнага мужа і бацькі, выдатнага прамоўцы, проста вельмі прыстойнага сапраўднага чалавека. Сапраўдным ён быў і беларусам, і яго штодзённая беларуская мова, якой ён карыстаўся паўсюль і заўсёды, выклікала спагаду і разуменне.



Журботная вестка пра тое, што Сяргея не стала, прыйшла настолькі нечакана, настолькі аглушыла нечуваным болем, што цяжка было сабрацца з думкамі, таму што ад гэтай сям'і — Сяргея, Рыты і іх дзяцей Вальжыны і Глеба заўсёды веяла такой лагодай, такім жыццёвым спакоем, што было радасна і светла знаходзіцца побач. Ён не раз быў героем маіх рэпартажаў і перадач, разам з сям'ёй мы запрашалі яго на праграму "Зямля, што нам дадзена лёсам".

Вельмі цяжка і балюча, што болей не пачую ў трубцы, у майстэрні, на выстаўках голас Сяргея, але веру, што рэхам будзе адгукацца ў душы яго прыемны барытон, яго глыбокая чалавечая і мастакоўская сапраўднасць.

# Помнік патомнаму промыслу

У вёсцы Гарадная Столінскага раёна створаны ўнікальны помнік, аналагаў якому, бадай, няма ў рэспубліцы. Пра мясцовы патомны промысел — ганчарства — жыхарам вёскі і турыстам нагадвае ансамбль з шасці драўляных скульптур, якія адлюстроўваюць паслядоўны працэс работы з глінай, і галерэя партрэтаў майстроў-носьбітаў старадаўняга рамяства.

**Галіна ГАШЧУК,**
**фота аўтара**

Гэтыя творы мастацтва зрабілі ўсяго за тыдзень удзельнікі Міжнароднага пленэру рэзчыкаў па дрэве і жывапісцаў, які адбыўся летась у Гараднай.



*Іван Супрунчык падчас работы над скульптурай "Сталы ганчар навучае маладога рабоце з глінай".*

Над скульптурамі працавалі народны майстар Беларусі Уладзімір Чыквін з Кобрына, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, старшыня грамадскага аб'яднання майстроўмастацтваў рэгіёна "Белавежская пушча" і Брэстчыны "ТУР" Анатоль Туркоў з Камянца; народны майстар Беларусі Іван Супрунчык з Цераблiч, які па-ранейшаму працуе толькі сякерай. Самы малады з удзельнікаў — Мікалай Задрэйка з гарадскога пасёлка Івянец Мінскай вобласці. Замежныя госці Ян Паўлоўскі і Януш Валынскі з польскага горада Владава — вядомыя майстры. Творчасць Яна Паўлоўскага адзначана сярэбраным медалём урада Польшчы. Разьбяр мае ўласную галерэю ў Францыі, а яго калега Януш Валынскі — у Владаве.

Кожны разьбяр працаваў над сваёй тэмай. У новых творах майстры адлюстравалі ўвесь працэс работы над ганчарным посудам: нарыхтоўка гліны, работа за ганчарным кругам, абпальванне вырабаў, падрыхтоўка палівы, выкарыстанне ганчарнага посуду і перадача досведу наступнікам. Нягледзячы на тое, што фігуры выкананы рознымі аўтарамі, кампазіцыя выглядае вельмі прыгожа і арганічна.



*Мастачка Анжэла Вакуліч з Баранавіч піша партрэт Аўрама Басаўца.*

Галерэю партрэтаў мясцовых майстроўганчароў стварылі Сяргей Місюн са Століна — пісаў партрэт Макара Шэлеста, Аляксандр Юркевіч і Ігар Раманчук з Брэста — Мікалая Кісяля і Мікалая Шэлеста адпаведна, Анжэла Вакуліч з Баранавіч — Аўрама Басаўца, Святлана Валасюк і Сяргей Касцюк з Кобрына — Георгія Кавальку і Андрэя Міpановіча. Усе героі карцін — мясцовыя майстры ганчарства.

Напісана яшчэ адна цікавая старонка ў гісторыі Століншчыны. Майстры паехалі, але пакінулі цяпло рук і часцінку душы ў сваіх творах, што сталі гонарам і славутасцю вёскі.

## Творчая майстэрня

# З думкай пра бліжняга

Прайшло ўсяго два гады, як у Полацку пачаў дзейнічаць клуб "Фенікс", які аб'яднаў аматараў лапікавага шыцця, вышыўкі гафтам і іншых рамёстваў. Полацкія майстры ўжо не раз былі ўдзельнікамі і дыпламантамі розных міжнародных конкурсаў у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Празе… З чаго ўсё пачыналася?

**Ганна ТАРАНАВА,**
**кіраўнік клуба "Фенікс"**

Жаданне спалучыць радасць ад занятках рукадзеллем і магчымасць перадаць свой вопыт іншым людзям аб'яднала творчых людзей рознага ўзросту і прафесій. Сёння работы нашых майстроў знаходзяцца ў калекцыях Швецыі, Германіі, Даніі, Расіі, Украіны і Узбекістана. У кнізе "Народныя майстры Віцебшчыны", прысвечанай традыцыйным рамёствам і творчасці сучасных майстроў народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прадстаўлены і работы членаў клуба "Фенікс". Мы з задавальненнем удзельнічаем у розных кірмашах, фэстах, выстаўках і конкурсах як у Беларусі, так і за яе межамі.

З часу стварэння клуба вялікую ўвагу надаём рабоце з сацыяльна неабароненымі членамі грамадства, у першую чаргу дзецьмі-інвалідамі і сіротамі. Члены "Фенікса" з'яўляюцца валанцёрамі полацкага аддзялення Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа і праводзяць шмат акцый як для дзяцей, так і для пажылых людзей. Гэта вялікае задавальненне — прыносіць радасць людзям, дарыць ім сувеніры і прыгожыя рэчы, зробленыя рукамі майстроў, перадаваць сваё ўменне тым, хто жадае зрабіць штосьці прыгожае і карыснае для сябе з нашай дапамогаю.

Сярод работ членаў клуба вылучаецца лапікавы варыянт карціны Івана Хруцкага "Кветкі і садавіна", якую стварыла Тацццяна Злобіна з дапамогай калег па клубе да 200-годдзя з дня нараджэння мастака. Гэтая работа дэманстравалася падчас навукова-практычнай канферэнцыі музеяў Масквы і Санкт-Пецярбурга ў чэрвені мінулага года.

А сёлета, на пачатку жніўня, адбылася прэзентацыя нашага праекта "І душа з душою гаворыць", які праводзіўся пад эгідай Полацкай гарадской арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа. З аднаго боку, мы імкнёмся ўзнавіць крыху забытае народнае рамяство — лапікавае шыццё, а з другога, стараемся ўпрыгожыць свой дом у прыгожым народным стылі і прыцягваем да гэтай справы дзяцей, абуджаем у іх прагу прыгажосці.



*Лапікавы варыянт карціны Івана Хруцкага "Кветкі і садавіна".*

## З глыбінкі

### НЕ ХАПАЕ ПАЭТУ ПАЭТА

"Раніца ў нядзельку". Паўнюткі серабрысты "сітраэн" імчыць 120 у гадзіну. Кіроўца — байкер, пасажыры — літаратары, пункт прызначэння — Слонім. Або Услонім — гэта назва прагучыць крыху пазней, калі ўсе пяцёра перанясуцца на восем стагоддзяў назад, — падчас экскурсіі па старой частцы горада. Парад уражанняў: Андрэеўскі касцёл, музей імя Стаброўскага, аўстэрыя, дзядзінец і старая сінагога. Ля цэнтральнай раённай бібліятэкі адбываецца вяртанне ў сёння. Зрэшты, вяртанне — падман: бібліятэка — галоўнае месца дзеяння — размешчана ў будынку ратушы.

7 кастрычніка ў Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа адбылася творчая сустрэча мясцовага літаратурнага аб'яднання імя Анатоля Іверса з мінскімі гасцямі — унучкай Якуба Коласа Верай Міцкевіч, пісьменнікам Паўлам Саковічам, загадчыкам кафедры беларускай філалогіі БДТУ, кандыдатам філалагічных навук Мікалаем Трусам і галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць" Святланай Дзянісавай. Сустрэча па асабістым запрашэнні дырэктара Слонімскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Ларысы Рэпінскай стала прысвячэннем юбілею класіка. Месца яе невыпадковае і досыць сімвалічнае: слонімская бібліятэка носіць імя Якуба Коласа з 1944 года!

Ва ўтульнай гасцёўні — зноў "сумесь часоў": жырандолі і мультымедыя! Выхаванцы слонімскіх школ чыталі вершы — свае і Коласавы. Кіраўнік літаб'яднання Ірына Войтка таксама прысвяціла верш паэтам. Пра свае заняткі па навучанні лірыцы расказала кіраўнік паэтычнага гуртка Таццяна Трафімчык. Асаблівай шчырасцю і цеплынёй вылучыліся радкі Алены Руж.

Што яшчэ? І гаспадары, і госці атрымалі падарункі — абменьваліся імі на працягу ўсёй сустрэчы. І кожны застаўся з прыбыткам: нядзелька ўдалася!

**Святлана ВОЦІНАВА,**
**г. Слонім**

### АПОВЕД ПРА ЗЕМЛЯКА

У Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі працуе выстаўка "Педагог, мастак, фотааматар", прысвечаная неардынарнай асобе — земляку Уладзіміру Ешману.

Гэта быў таленавіты і надзвычай усебаковы чалавек. На сваёй радзіме ён вядомы перш за ўсё як выдатны настаўнік (33 гады выкладаў у карэліцкай школе), якога з цеплынёй згадвае не адно пакаленне вучняў, распавядаючы і пра падарожжы па малой радзіме, і пра школьны тэатр ды ўрокі геаграфіі. У. Ешман пакінуў і багатую калекцыю карцін. Талент мастака выявіўся і ў афармленні інтэр'ера школы, павільён для абласной сельскагаспадарчай выстаўкі, за што быў узнагароджаны паездкай у Маскву на ВДНГ. Яму належаць і праекты шэрагу помнікаў — работнікам міліцыі ў саміх Карэлічах, у вёсках раёна — загінуўшым землякам, а таксама Мікалаю Арцюху ў в. Заполле (як не без шкадавання зазначае супрацоўніца музея Святлана Кошур, у кнізе "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" яго імя як аўтара праекта не пазначана).

На выстаўцы можна пабачыць і цікавыя фотаздымкі, зробленыя Ешманам у пачатку 50-х гадоў, — іх перадаў музею сын Уладзіміра Мікалаевіча. Многія асабліва цікавыя тым, што адлюстроўваюць жыццё пасёлка ў пасляваенны час і памятаюць былую архітэктуру — тую, якой сёння ўжо няма.

**Алеся БАЦЮСЬ,**
**г. п. Карэлічы**

## Афарызм

*Прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачамі кожнага з нас.*
*Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя напісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце?*

**Якуб КОЛАС**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2715.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 11.10.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4553
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686